PL ISSN 0546 - 1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК
БЕЛАРУСАЎ
У ПОЛЬШЧЫ

№ 14 (1977) ГОД XXXIX БЕЛАСТОК 3 КРАСАВІКА 1994 г. ЦАНА 4000 зл.

## КАНЕЦ САЛОНАЎ, ІДЗЕМ У НАРОД!

20 сакавіка гэтага года ў Беластоку прайшоў III Кангрэс Беларускага дэмакратычнага аб'яднання. Кангрэсавая камісія вылучыла на яго 65 дэлегатаў — у працы Кангрэса ўдзел прынялі 52 дэлегаты. Прысутнічала таксама чацвёра гасцей, сярод якіх, між іншым, была Ганна Сурмач — старшыня Згуртавання беларусаў свету „Бацькаўшчына”.

Адчыніў Кангрэс старшыня ўступаючай Галоўнай рады Аб'яднання Алег Латышонак, які перадаў слова Пятру Юшчуку дзеля кіравання працай зборышча. Пасля пару фармальных пастаноў наконт парадку нарадаў ды выбару пратакалістаў, камісій прапаноў і мандатнай дэлегаты выслухалі справаздачу старшыні Галоўнай рады. У справаздачы гэтай Алег Латышонак закрануў, між іншым, такія пытанні: няўдачы Беларускага дэмакратычнага аб'яднання ў выбарчых кампаніях, спробы наладжання кіраўніцтвам БДА супрацоўніцтва з нацыянальнымі меншасцямі, паляпшэнне адносін з Праваслаўнай Царквой, заняпад тэрытарыяльных радаў БДА ў Гайнаўцы і ў Гданьску, а таксама брак поспеху ў стварэнні новых тэрытарыяльных радаў. У асэнсаванні няўдач Беларускага дэмакратычнага аб'яднання А. Латышонак звярнуў увагу на недавер грамадства да магчымасці пабудовы ў краіне ліберальнага ладу, а таксама на факт знікнення палітычнага цэнтра ў краіне ды рост нацыяналізму.

Са справаздачай выступіў таксама сябра Галоўнай рэвізійнай камісіі Пятро Германюк. Няправільнасцяў у фінансавым справаводстве партыі гэтая Камісія не сцвердзіла, але спадар Германюк адзначыў, што сумы, якімі распараджалася БДА на працягу кадэнцыі — годныя жалю.

Першым голас у дыскусіі над справаздачамі ўзяў Сакрат Яновіч. Нашы фінансы — ганебная справа, прызнаў. Запрапанаваў увесці членскія складчыны. Наконт сітуацыі партыі, заўважыў, што ў БДА закончыўся нейкі этап. Паводле С. Яновіча быў гэта этап інтэлігенцыі. Цяпер ва ўлады партыі павінны ўвайсці людзі з гушчавіны жыцця. Час БДА яшчэ не прыспеў — для гэтага патрабуецца нармальнай беларускай свядомасці. С. Яновіч запрапанаваў таксама выбіраць ва ўлады мінімальныя статутныя колькасці асоб.

Антон Мірановіч заўважыў, што становішча, у якім апынулася партыя з'яўляецца таксама вынікам адносін да яе польскай большасці. БДА павінна змяніць мэты і сродкі дзейнасці, а Кангрэс павінен адказаць на пытанне: ісці ў выбары самастойна, ці ў кааліцыі? Кангрэс павінен таксама выступіць з заклікам да беларусаў прыняць актыўны ўдзел у выбарах.

Лявон Тарасэвіч сітуацыю ў БДА ахарактарызаваў прыблізна так: з аднаго боку расчараваныя інтэлігенты, а з другога — няспелае, паводле гэтых інтэлігентаў, грамадства. Кожны з нас ведаў, дадаў Л. Тарасэвіч, якое тое грамадства ды як яно галасуе. Трэба прызнацца, што мы не надта пастараліся, каб нешта ў гэтай справе змяніць. Не было працы з людзьмі ў тэрыторыі — у Беластоку стварыўся салон, які хацеў пра ўсё вырашаць. Адна памылка паўтараецца ва ўсіх беларускіх арганізацыях — замкнёнасць у сваім крузе. Не выхоўваем новых людзей, брак пераемнасці.

Валянцін Сельвясюк сказаў, што заклік да беларусаў пра актыўны ўдзел у выбарах варта пашырыць на ўдзельнікаў самой БДА. Людзі, якія ўвойдуць у кіраўнічыя органы БДА павінны лічыцца, што будзе гэта вязацца з кандыдаваннем у самаўрадавых выбарах. Добра сталася б, каб праз нейкі час сустрэчы Галоўнай рады пераўтварыліся ў сустрэчы радных.

Ян Максімюк выказаў погляд, што істотная памылка была зроблена на папярэднім кангрэсе партыі, які адбываўся пасля пройгрышу БДА ў парламенцкіх выбарах 1991 года. Не было сярод нас, сказаў, людзей, якія захацелі б пазаймацца рэальнай палітыкай. Папярэдні кангрэс не асэнсаваў гэтай новай сітуацыі, у выніку чаго ўсё пакацілася старою каляінай.

Алег Латышонак, адказваючы на пастаўленыя справаздачы засцярогі, падкрэсліў, што выбаршчык БДА знаходзіцца ў горадзе, наогул мае сярэднюю або вышэйшую адукацыю, а галасуе на БДА толькі таму, што партыя прапануе яму менавіта нацыянальную праграму.

Кангрэс адклікаў кіраўніцтва партыі.

Шмат увагі дэлегаты адвялі дыскусіі над самаўрадавымі выбарамі. У яе ходзе выкрышталізаваўся характар адозвы да беларусаў.

Кангрэс, прапанаваў Антон Мірановіч, заклікае беларусаў прыняць актыўны ўдзел у выбарах, выбарчую тактыку — самастойна, ці з саюзнікамі, хай вырашаюць людзі ў рэальных умовах.

Калі прымем такую пастанову, сказаў Віктар Стахвюк, беларускі палітычны рух на Беласточчыне знікне. У папярэдніх самаўрадавых выбарах мы выйгралі з лявіцай, не хапіла толькі сілы, каб павесці працу з нашымі кандыдатамі. У БДА выйграла іншая канцэпцыя — з гмінамі выйгралі варшаўскія салоны... Працяг выказвання патануў у воплесках.

Славамір Іванюк як старшыня Тэрытарыяльнай рады БДА ў Бельску паведаміў дэлегатаў пра кааліцыю з СЛД, Уніяй працы і ўкраінцамі. Не вялікая штука,

☞ Працяг на стар. 4



*Ідзем у народ!* **Фота А. Максімюка**

## КОЖНЫ ПЛАЧА ПА СВАЁЙ БЯДЗЕ!

**У канцы лютага г.г. Гайнаўшчыну абышла страшэнная вестка. Пра трагедыю ў Шастакове гаварылася ўсюды: на працы ў Гайнаўцы і ў навакольных сялянскіх хатах. Хадзілі розныя „слухі” і разыходныя версіі здарэння.**

Хаця зараз і прадвесне, у Шастакове вуліца сухая, чыстая. Складаецца ўражанне, што гэта найпрыгажэйшая вёска Беласточчыны. Драўляныя „вілы”, арыгінальныя арнаменты на аканіцах, рэзьбленыя шчыты. Панадворкі — прыбраныя, збудаванні — новыя. Але недалёка, 200 метраў за вёскай, пачынаецца іншы свет. Сяляне папярэджваюць мяне перад балотам, раяць увогуле туды не набліжацца.

Найперш быў там калгас. Пазней зрабілі ПГР (саўгас) і далучылі яго да Новага Беразова. Пасля шчаслівага бяспечнага жыцця для многіх рабочых надышла жыццёвая катастрофа. Два гады таму ПГР у Новым Беразове збанкрутаваў.

На пачатку людзі атрымалі „кура́нёўку”. Яшчэ мелі надзею. Найгоршыя дні наступілі тады, ка[illegible]чыліся „засілкі”. Трэба было думаць пра хлеб для галодных дзяцей. Жанчыны з рання чакалі ў чарзе да грамадскай дапамогі. Многія мужчыны, замест шукаць заробку, шукалі выпіўкі.

Сям'я спадарства Ч. прыехала ў Шастакова ў 1989 г. Бацька са старэйшымі сынамі працаваў у ПГРы. Малодшыя вучыліся ў пачатковай школе. Два гады таму ўсе сталі беспрацоўнымі. Бацька са старэйшым сынам вырашыў вяртацца ў сваю родную вёску. Там жыў яшчэ іх дзед. Трэба было перачакаць цяжкія часы. Чакалі лепшага.

**Людзі ў ПГРы страцілі інстынкт змагання. Дзяржава дала ім кватэры, працу і своеасаблівую філасофію: „Żyję, więc mi się należy”. Новая рэчаіснасць прынесла толькі расчараванне і трагедыі.**

У двухпакаёвай кватэры жылі 5 хлопцаў і маці. Усе паканчалі толькі пачатковыя школы. Аб далейшым жыцці і прафесіі не думалі. У вёсцы сяляне яшчэ ўспамінаюць, як адзін з хлопцаў, замест кантрольнай працы, быццам бы напісаў: „Jak pani mi postawi pałę, to dostanie w pałę”. У васемнаццацігадовым узросце ўрэшце развітаўся ён са школай. Хапіла яму 6 класаў.

**Усе хлопцы цікавіліся машынамі. З усёй аколіцы звозілі старыя веласіпеды, матацыклы і самаходы.**

Гаспадары аддавалі ім свае старыя „сырэнкі”. Хацелі пазбыцца барахла. У пэўны момант ля іх хаты паявіліся аж 4 такія машыны. З гэтага ўсяго лому хлопцы зманціравалі адну „сырэнку”.

— Калі толькі хапанулі граша, адразу ўсе машыны і матацыклы бушавалі па наваколлі. Аж страшна было глядзець, — гаворыць Ванда С.

За грошы якія зарабілі ў чыжоўскай Управе гміны, урэшце маглі купіць „сапраўдную машыну”. За 15 мільёнаў старгавалі старога „малюшка”.

— Гэта былі дзіўныя людзі. Не мелі на

☞ Працяг на стар. 3

# МЫ ПРАЧЫТАЛІ

*Jeden z dziennikarzy białoruskiego tygodnika „Niwa" zaatakował działaczy Zarządu Regionu białostockiej „Solidarności". Przed kilkoma tygodniami inny dziennikarz „Niwy" oświadczył, że osobiście doprowadzi do wyprowadzenia z budynku „Solidarności", a Białorusini zlikwidują nasz związek*, — заявіў у сродках масавай інфармацыі лідэр беластоцкіх салідарнікаў Юзэф Мазалеўскі.
*(Gazeta w Białymstoku, nr 60)*

Інфармацыю Мазалеўскага пра тэрарыстычную дзейнасць журналістаў „Нівы" і „палітычную правакацыю" супраць „Салідарнасці" паўтаралі 11 сакавіка амаль кожную гадзіну на хвалях Беластоцкага радыё. Быў гэта дзень дэманстрацыі салідарнікаў, якая пачыналася пры вуліцы Сураскай 1. Падчас мітынгу Мазалеўскі гаварыў штосьць пра камуністаў і Цімашэвіча. На канец заняўся "Нівай", неяк спалучаючы ўсё гэта з выбарамі 19 верасня. Галоўная думка была такая: п'яныя журналісты, каб перашкодзіць у падрыхтоўцы дэманстрацыі, напалі на актывістаў, абілі іх фарбай і знішчылі транспаранты. Паклёпы і кур'ёзныя абвінавачванні змясціла беластоцкая „незалежная" прэса.

* * *

*Manifestanci z „Solidarności" w dn. 11 marca wręczyli Prezydentowi Miasta wniosek o eksmisję „Niwy" z budynku przy ul. Suraskiej 1.*
*(Kurier Poranny, nr 51)*

* * *

*Przedstawiciele komisji zakładowych „Solidarności" grożą, że sami wyprowadzą redakcję „Niwy" z budynku przy ul. Suraskiej 1.*
*(Gazeta w Białymstoku, nr 60)*

Мазалеўскі дасягнуў мэты, выклікаў сярод актывістаў стан крайняй нянавісці да „ворагаў народа". Некаторыя пры нагодзе даведаліся, што існуе нейкая „Ніва", у якой працуюць „алкаголікі, дэгенераты, камуністы і правакатары". Зразумела, усе яны нейкія „рускія" — кацапы, інакш кажучы.

* * *

*„Solidarność" o incydencie z „Niwą" powiadomiła Komisję Krajową, premiera, UOP i mass media. Wystąpienie przewodniczącego Mozolewskiego na piątkowej manifestacji, zawierające akcenty antybiałoruskie, stało się faktem.*
*(Kurier Poranny, nr 51)*

Нам пакуль што невядома, якія былі сапраўдныя прычыны салідарніцкай правакацыі.

* * *

*Mniejszości narodowe mają za dużo w tym kraju do powiedzenia* — заявіў палітык Polskiego Frontu Narodowego.
*(Rzeczpospolita, nr 62)*

Госцем Фронту быў сам Уладзімір Вольфавіч Жырыноўскі. Ствараецца інтэрнацыянал шавіністаў!?

* * *

*Wszystkie kraje demokratyczne mają komisje do kontroli służb tajnych i specjalnych. W Polsce nie podlegają one żadnej kontroli. A czwartą władzą nie jest prasa, tylko ci, którzy posiadają informację. Mogą oni dobrowolnie manipulować prasą, powodować powszechne akcje prasowe o określonym kierunku i załatwiać w ten sposób swoje interesy*, — сказаў старшыня Сеймавай камісіі ўнутраных спраў Ежы Дзявульскі.
*(Gazeta Współczesna, nr 53)*

* * *

*Znakomita większość kłamstw i oszczerstw nie może być zdemaskowana. Są bowiem tak ogólnikowe, że nie można udowodnić nieprawdziwości pomówień*, — сказаў Яцэк Курань.
*(Gazeta Wyborcza, nr 64)*

* * *

*Polacy myślący i czujący patriotycznie — żadnych takich twarzy jak Michnik, Kuroń. Dość tych monstrualnych oszustw, dość okłamywania i okradania. Polaku! Obudź się! Zaprzestań płacenia abonamentu TV. Nie finansujmy komunistycznej, antypolskiej i antykatolickiej propagandy.*
*(Gazeta Polska, nr 10)*

Калі сённяшняе тэлебачанне з'яўляецца антыкаталіцкім і антыпольскім, то што будзе ў ім, калі новая хваля патрыётаў дарвецца да ўлады.

* * *

*Zwalone barbarzyńsko nagrobki na przedwojennym cmentarzu luterańskim przy ul. Wasilkowskiej sprawiają bardzo przygnębiające wrażenie. Czy naprawdę nie ma takiej siły, która mogłaby spowodować zmianę tej kompromitującej Białystok sytuacji.*
*(Gazeta Wyborcza, nr 64)*

Могільнік евангелістаў, значыць немцаў, таксама ж варожы. Ушанаваць памерлых іншага веравызнання ці нават рэлігіі маглі б толькі хрысціяне, але дзе такіх знойдзеш у гэтым горадзе. Камяні з яўрэйскага могільніка расцягнулі пад фундаменты навакольных вілаў, якія святыя айцы пасля акрапілі свянцонай вадой.

* * *

*Panie profesorze Religa! Kiedyś władcy hodowali sobie błaznów, natomiast w peerelu profesorów. Bierut miał swojego Dębowskiego, Gomułka — Kotarbińskiego, Gierek — Szczepańskiego, Jaruzelski — Suchodolskiego, a Wałęsa ma Pana. To jest, Panie Religa, straszny wstyd! Niech Pan sam przyzna, jakie w tym Belwederze francowate towarzystwo: ten ciągle niedogolony Drzycimski, co go Wałęsa bije po łapach jak się zdenerwuje, ten kapciowaty Wachowski, te lokajskie dusze z szemraną przeszłością — czy to jest odpowiednie towarzystwo dla Pana?*
*(Gazeta Polska, nr 10)*

Як відаць, узровень палітычнай думкі пастаянна ўзрастае.

* * *

*Rząd czeski ma tendencje nacjonalistyczne. Jeżeli Czechy chcą wejść do Europy, to niech kierują się standartami europejskimi*, — сказаў Анджэй Стэльмахоўскі, старшыня „Wspólnoty Polskiej".
*(Rzeczpospolita, nr 65)*

* * *

*Polska mniejszość krytykuje władze czeskie. Należy ona do najbardziej zorganizowanych w Republice Czeskiej. Jej prawa do wykształcenia, informacji w języku ojczystym oraz stowarzyszania się i działalności kulturalnej gwarantuje Karta Praw Człowieka, czeska konstytucja oraz dokumenty międzynarodowe, które zobowiązała się respektować Republika Czeska. W roku bieżącym zmniejszono dotację dla Polaków*, — піша ўрадавая газета
*(Rzeczpospolita, nr 64)*

Беларуская меншасць у Польшчы мае таксама ўсе правы на адукацыю, інфармацыю ў роднай мове, і на культурную дзейнасць. Гарантуе нам усё гэта Карта Правоў Чалавека, польская канстытуцыя і міжнародныя пагадненні, якія падпісала Польшча. Пра датацыі для беларускага асяроддзя не варта нават успамінаць.

## З мінулага тыдня

**Польшча** будзе арганізатарам трэцяй канферэнцыі Усход-Захад міністраў эканомікі, прамысловасці і замежнага гандлю найбольш развітых краін свету — г. зв. „сямёркі" (G-7) і дзесяці постсацыялістычных дзяржаў: Польшчы, Чэхіі, Славакіі, Венгрыі, Беларусі, Балгарыі, Казахстана, Расеі, Румыніі і Украіны. Сустрэча адбудзецца 6—7 мая ў Варшаве.

**Віцэ-міністр культуры і мастацтва Здзіслаў Падканскі** наведаў Беласточчыну і сустрэўся з мясцовымі дзеячамі культуры. У ходзе сустрэчы адзначана, што ў 1989 годзе на культуру было адведзена 2,2 працэнта дзяржаўнага бюджэту, а ў 1994 — толькі 0,65 працэнта.

**Менскае выдавецтва „Мастацкая літаратура"** выпусціла зборнік паэзіі **Цыпрыяна Каміля Норвіда** „Ідзі за мною" ў перакладзе Алега Мінкіна.

**Прэзідэнт Беластока Лех Руткоўскі** і мэр Гродна **Генрых Крупенка** падпісалі пагадненне аб гаспадарчым, навуковым і культурным супрацоўніцтве. У сустрэчы ўдзельнічаў віцэ-мэр Калінінграда **Аляксей Канюшэнка**, які разглядаў асновы трохбаковага пагаднення Беласток-Гродна-Калінінград, якое плануецца падпісаць у маі г.г.

**II Міжнародны тыдзень тэатра** прайшоў у Беластоку. Па запрашэнню мясцовага Драматычнага тэатра імя А. Вянгеркі ў сталіцу ваяводства прыехалі тэатры з Лондана, Менска, Вільні, Браціславы і Заграба. Акцёры менскага Тэатра імя Янкі Купалы падрыхтавалі спектакль „Віват імператар" паводле п'есы „Крэслы" Эжэна Іанеска.

**У Беластоку** адбыўся трохдзённы кірмаш фірмаў, якія займаюцца будаўніцтвам і афармленнем інтэр'ераў. Прынялі ў ім удзел 48 прадпрыемстваў і гандлёвыя прадстаўніцтвы Літвы і Беларусі.

**Падчас II Міжнароднага тэкстыльнага кірмашу ў Беластоку** на працягу тыдня свае вырабы прапанавала каля 70 прадпрыемстваў з краіны і заграніцы. Беларусь на кірмашы прадстаўлялі фірмы з Баранавіч і Магілёва.

**Ваяводская інспектура аховы асяроддзя ў Беластоку** супрацоўнічае з падобнымі экалагічнымі ўстановамі ў Беларусі пры даследаванні чысціні вады гранічных рэк. У гэтым годзе выйдзе з друку публікацыя, якая падсумоўвае шаснаццацігадовы (1977—1993) перыяд супольных даследаванняў. На думку беластоцкіх эколагаў, вада рэк, выплываючых з Беларусі не нясе нам ніякай пагрозы, а наадварот — гэта рэкі, што выплываюць ад нас (Правая Лясная, Крынка) маюць моцна забруджаныя воды.

**Бельская кааліцыя** — так называецца супольны выбарчы камітэт, заснаваны ў Бельску-Падляшскім Саюзам левых дэмакратаў, Уніяй працы, **Беларускім выбарчым камітэтам** і Саюзам украінцаў Падляшша. Камітэт мае праграмны характар і намерваецца вылучыць супольных кандыдатаў падчас найбліжэйшых выбараў у мясцовыя самаўрады.

**Улады горада Высокае-Мазавецкае** Ломжынскага ваяводства намерваюцца наладзіць супрацоўніцтва з горадам Высокае Брэсцкай вобласці. У пачатку сакавіка дэлегацыя аддзела Саюза палякаў з гэтага горада падпісала папярэднюю дамову з Таварыствам любіцеляў Высокага-Мазавецкага, якая прадугледжвае культурны абмен і супольныя мерапрыемствы. Бурмістр горада перадаў гасцям запрашэнне мясцоваму гарвыканкаму з прапановай наладзіць супрацоўніцтва паміж абодвума гарадамі.

**Па-рознаму сустракалі першы дзень вясны** вучні, якія найчасцей у гэты дзень робяць прагул. Напрыклад, тры вучні прафесіянальнага вучылішча з Гайнаўкі і выхаванец Дзетдома з Белавежы выпашылі спачатку пагуляць ля чыгуначнага прыпынку Гарадок, дзе палілі вогнішча і прабавалі моцныя напоі, а потым знішчылі пачакальню. Вынік такога святкавання — 1,5 млн. злотых страт.

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ"

- 55 працэнт праваслаўных жыхароў Беласточчыны лічаць сябе палякамі — з вынікаў сацыялагічных доследаў прафесара А. Садоўскага.
- Дырэктар Васіль Ляшчынскі пра сітуацыю бельскай "тройкі".
- У гайнаўскім ліцэі не будуць звяртаць увагі на ацэнкі па беларускай мове.

## ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

### Новая Канстытуцыя

15 сакавіка Вярхоўны Савет прыняў Канстытуцыю Рэспублікі Беларусь. За яе прыняццем прагаласавала 236 дэпутатаў парламента, супраць — 6, устрымаліся — 8. Галоўнае новаўвядзенне ў Канстытуцыі — прэзідэнцкая форма праўлення. Апошнім штрыхом, унесеным Вярхоўным Саветам, стала папраўка да 49 артыкула, якая гарантуе даступнасць і бясплатнасць усеагульнай сярэдняй і прафесійна-тэхнічнай адукацыі. Парламент уключыў яшчэ ў парадак дня XIII сесіі пытанне аб выбарах прэзідэнта і Вярхоўнага Савета рэспублікі.

### Заява наконт Канстытуцыі

Выканаўчы камітэт Беларускай сацыял-дэмакратычнай грамады выступіў з заявою ў сувязі з прыняццем Вярхоўным Саветам новай Канстытуцыі. „Нягледзячы на тое, што яна носіць супярэчлівы характар, практычна закансервавала старую сістэму, стварыла напалову прафесійны парламент і не правяла сапраўднага падзелу ўлады — гэта першая Канстытуцыя незалежнай дзяржавы", — гаворыцца ў заяве. Яе аўтары лічаць, што прынятая Канстытуцыя набліжана да ідэалу Беларускай Народнай Рэспублікі, абвешчанай 25 сакавіка 1918 года.

### Новы пасол

Былы старшыня Вярхоўнага Савета БССР, пакуль што першы намеснік міністра замежных спраў Георгій Тарасевіч неўзабаве зменіць месца працы, пераехаўшы ў Варшаву. Савет Міністраў Беларусі рашыў унесці ў Прэзідыум Вярхоўнага Савета прапанову аб прызначэнні Г. Тарасевіча на пасаду Надзвычайнага і Паўнамоцнага Пасла ў Рэспубліцы Польшча. Адначасова Саўмін запрапанаваў вызваліць Уладзіміра Сянько ад абавязкаў беларускага пасла ў Польшчы і назначыць яго паслом у Вялікабрытаніі.

### Як вылучыць прэтэндэнта?

Нядаўна дэпутатам Вярхоўнага Савета быў разасланы праект закона аб выбарах прэзідэнта РБ, які прадугледжвае вылучэнне кандыдата шляхам падачы 70 подпісаў народных дэпутатаў альбо 100 тысяч подпісаў грамадзян Беларусі. Незразумела, чаму якраз 70, аднак вядома, што агульная колькасць дэмакратычных дэпутатаў ледзь дасягае 60. І таму вылучэнне нават аднаго кандыдата ад апазіцыі першым спосабам невырагоднае. Што тычыцца збору подпісаў, тут, відавочна, перавагі ў Беларускага народнага фронту, які мае добраарганізаваныя структуры ў рэгіёнах і вопыт збору подпісаў за рэферэндум. Аднак, за вызначаныя па праекце закона два тыдні, нават Фронту без падтрымкі іншых дэмакратычных партый будзе даволі складана сабраць неабходную колькасць подпісаў. У сваю чаргу нешматлікім партыям зрабіць гэта самастойна будзе яшчэ больш цяжка. Такім чынам не выключана, што ў бліжэйшы час дэмакратычныя партыі і рухі падпішуць пагадненне, якое будзе рэгламентаваць іх дзеянні падчас выбараў.

### Даць роўныя шансы

Каардынацыйны камітэт Аб'яднання дэмакратычных сілаў „Вясна-94" выступіў з заявай, у якой асудзіў пазіцыю ўрада адносна дзейнасці сродкаў масавай інфармацыі. „Пераважная большасць сродкаў па-ранейшаму знаходзіцца ў руках выканаўчай улады, — гаворыцца ў заяве, — а кіраўнікі ўрада адкрыта заяўляюць, што прэса, якая не падтрымоўвае ўрад, не будзе атрымоўваць фінансавай датацыі". Аўтары заявы патрабуюць, каб падчас выбарчай прэзідэнцкай кампаніі ўрад даў усім партыям і палітычным аб'яднанням роўную плошчу ў друку і аднолькавы час у эфіры для асвятлення сваіх праграм.

### Беларусь — наш агульны дом

Арганізацыйная рада Патрыятычнага руху „Беларускае згуртаванне вайскоўцаў" выступіла з заявай аб нацыянальным пытанні ў Беларусі. У прыватнасці заяўлена, што БЗВ прытрымліваецца еўрапейскага падыходу да гэтага пытання, згодна з якім паняцці нацыя і народ супадаюць. БЗВ лічыць, што беларускую нацыю складаюць прадстаўнікі ўсіх этнічных груп Беларусі і выступае супраць спроб антынацыянальных сілаў раскалоць адзіную беларускую нацыю па этнічным прыкметах. „Мы, патрыёты Беларусі, выступаем за захаванне і развіццё палешуцкай культуры — гонару нацыянальнай беларускай культуры. Памятайма, што незалежна ад этнічнай прыналежнасці, Беларусь — наш агульны дом, які мы павінны будаваць разам", — гаворыцца ў заяве.

### Вымушаны адпачынак

Крычаўская мэблевая фабрыка зноў спыняе вытворчасць не папрацаваўшы і месяца. Зноў дзевяноста працоўных гэтага прадпрыемства адпраўляюцца ў вымушаны адпачынак. Прычына — невялікі попыт на прадукцыю фабрыкі з-за высокіх цэнаў на яе. Адпускная цана прадпрыемства на кухонныя гарнітуры, а гэта асноўная прадукцыя фабрыкі, 1 мільён 250 тысяч рублёў. Ды і гандаль накручвае працэнты. Вось і вымушана прадпрыемства спыніцца ў другі раз у гэтым годзе.

# КОЖНЫ ПЛАЧА ПА СВАЁЙ БЯДЗЕ

☛ *Працяг са стар. 1*

чым спаць, не было ім за што хлеба купіць, а тут узялі і купілі машыну, — здзіўляюцца людзі з Шастакова.

На сваё няшчасце, разам з „сырэнкамі” веласіпедамі і матацыклaмі складалі фатальныя „апоны” — аўтамабільныя пакрышкі.

**— Хлопцы не то, каб абібокі ці п’яніцы. Проста, не зводзілі канцоў з канцамі.** Калі гміна арганізавала беспрацоўным работу, хлопцы пайшлі першымі. Абкошвалі лугі, працавалі пры сушэнні равоў. Таксама ў нас, гаспадароў, нанімаліся. Людзі часта плацілі ім пшаніцай ці жытам. У іх было парася, куры, гусі, садзілі варыва. Не можна сказаць, што нічога не рабілі. Мы таксама давалі ім у крэдыт збожжа ці бульбу. Таксама ў Беразове ў прыватным магазіне давалі ім „на крэску”. Калі атрымоўвалі грошы, то крэдыты сплачвалі. Не раз, бывала, куплялі толькі 5 булак хлеба. Маладым, здаровым есці хацелася, — расказваюць жыхары Шастакова.

Сімпатычна ўспамінаюць вяскоўцы як хлопцы „аформілі” прыгавор „калегіума”. Трэба ім было заплаціць 1,5 мільёна штрафу, але грошай не было. Вырашылі тады, што ў трох пойдуць у турму, адсядзець належную суму. Праз 2 тыдні вярнуліся. На прывітанне здзіўленым сялянам адказвалі: „Ot, trochem odpoczelim”.

**— І цяпер, калі аб гэтым думаю, робіцца мне горача і сэрца трывожна б’ецца,** — расказвае суседка, Ванда С. — Цэлае жыццё марыла я аб спакойным жыцці ў вёсцы. У Шастакова прыехалі мы аж з поўдня Польшчы. Але тут спаткала нас клапатлівае суседства. Нашыя суседзі так шумелі, лупцавалі і штурмавалі, што галава не раз пухла. Да таго іх слоўнік быў насычаны такімі вульгарызмамі, што валасы на галаве дыбам ставалі. Мы не жылі з сабой па-сяброўску. Судзіліся. Але як здарылася гэтая трагедыя, дык я нават не ведаю, калі ўся крыўда адышла. Вырашыла я там пайсці. Баялася. Асцярожна пераступіла парог. І тады паразіла мяне атмасфера — адчуваўся там пах смерці. З маткай дагаварыцца я не здолела. Гэтая жанчына была сярод нас „непрысутнай”. Яе вочы дзіка глядзелі ў неба. Рашыла я дапамагчы. З усяго, што было ў хаце, я зварыла страву і занесла суседзям. Тут, у ПГРы, мы з голадам амаль ужо асвоіліся.

**— У 6 гадзін раніцы вяртаўся я ад малака. Бачу, што нехта да мяне бяжыць і рукамі махае.** Здзівіўся я, бо Манек ніколі хутка не хадзіў і не бегаў. Бачу, што пераляканы. І да таго прыбег так, як бы толькі што з ложка сарваўся. Бяжыць да мяне і крычыць:„Szybciej, sołtysie, dzwońmy po pogotowie!” Спачатку я падумаў, што можа яны пабіліся ці „шпіртам” запіліся, — успамінае Міхал М.

**— Каб раней прабудзіўся, то можа ўсё было б у парадку,** — расказваў той жа Манек. — З вечара ўсе глядзелі алімпіяду ў Лілехамеры. Яшчэ а 3 гадзіне маці прыйшла выключыць тэлевізар. Нічога не заўважыла.

Манек прабудзіўся перад шостай. Прысніўся яму кашмар: быццам Юзік тоне і руку да яго працягвае. Накіраваўся ён у той пакой, дзе спалі яго тры браты (ён з маткай і братам начавалі ў другім пакойчыку). Падышоў, пастаяў і чуе, што штосьці тут не так. Наблізіўся да Марыюша і бачыць, што ў яго ногі на падлозе, а галава на падушцы. Запаліў святло. Твар Марыюша быў у пене. Дакрануўся да яго. Хлопец быў ужо зімны. Другі, Юрка, што спаў на паверсе, таксама. Тады кінуўся да Юзіка. Хлопец яшчэ дыхаў. Хутка вынеслі Юзіка на панадворак і пачалі рэанімацыю. Хлопец дастаў ліхаманкі. Неўзабаве прыехала хуткая дапамога. „На сігнале” адвезлі яго ў шпіталь. Пашчасцілася. Хлопец выжыў. Прысутнічаў на хаўтурах 21-гадовага Юркі і 18-гадовага Марыюша.

**Усе ставілі сабе пытанне: як гэта здарылася і чаму да гэтага дайшло?**

Справа выглядае проста. Ад свайго прыезду сям’я Ч. не правяла ніводнага рамонту ці папраўкі ў кватэры. Усё валілася і сыпалася. Печ (сцяноўка) патрабавала рамонту. Кватаранты чакалі, пакуль кіраўнік ПГРа загадае печніку адрамантаваць печку (дырэктара няма ўжо 2 гады). Не было чым паліць. На вугаль і дрэва не хапала грошай. Хлопцы вырашылі, што „апоны” з-пад „сырэнак” ужо непрыдатны для язды і пачалі імі паліць у печцы, ацяпляць хату. З няшчыльнага коміна пайшоў на хату чад. Ніхто з іх раней і не думаў, што ад чаду можна памерці.

Зараз жа ля апусцелай хаты ляжыць гурба лому. Калі я абыходзіла сядзібу, пачалі выць два сабакі, якія належалі хлопцам. Усмомнілася сказанае сялянамі: „Кожны плача па сваёй бядзе!”.

**Г. КАНДРАЦЮК**

P.S. Некаторыя імёны зменены.

# ШУМНАЕ АДКРЫЦЦЁ

„19 сакавіка штосьці ў нас здарыцца”! — абяцалі расклееныя па цэлым Бельску плакаты. Хэпэнінг, палітычная маніфестацыя, вырашальны матч мясцовага спартыўнага клуба „Тур” з лапскай „Пагоняй”, ці яшчэ нешта іншае?

Нешта іншае. У суботу 19 сакавіка прадпрыемства „Унібуд” адкрыла ў Бельску дзве новыя крамы: гандлёвы цэнтр „Мой дом” на вуліцы Міцкевіча 23 і мэблевы салон на Відаўскай. Адкрыццю спадарожнічала рэкламная акцыя, якой яшчэ Бельск у сваёй амаль тысячагадовай гісторыі не бачыў. Некалькі хваляў плакатаў пакрылі цэлы горад — спачатку людзі прачыталі толькі, што ў Бельску нешта здарыцца, потым, калі здарыцца гэтае нешта і толькі ў трэці раз усё стала ясна. Апрача таго бяльшчане ў сваіх паштовых скрынках знайшлі інфармацыйныя лістоўкі, а напярэдадні самога здарэння па горадзе ездзіў самаход з гукаўзмацняльнікам і запрашаў на ўрачыстае адкрыццё, абяцаючы многа ўражанняў і нават выйгрыш на латарэі.

Добра прадуманая прапаганда дала эфект. Нават снег з дажджом не напалохаў жыхароў Бельска — у цэнтры „Мой дом” перавальваўся тысячны натоўп, у якім час ад часу прамільгвалі вядомыя ў Бельску твары. Людзі тапталіся, прапіхваліся, з цяжкасцю міналіся, аглядалі глазуру з тэракотай, шпалеры з панелямі, дываны, ванны, фіранкі, хімію, электроніку, радыё- і тэлевізійную апаратуру, словам усё, што можа спатрэбіцца нам у хаце.

А ў другім месцы, на Відаўскай: канапы і фатэлі, крэслы і табурэткі, ложкі ды шафы, пры чым уся мэбля ў прасторных залах, можна ўсяму прыглядацца дакладна, даткнуць, адчыніць дзверцы, сесці. Нармальная крама, з нармальным таварам, польскай прадукцыі. У краме з мэбляй, праўда, напалохаць могуць цэны, але што зробіш, такія яны цяпер усюды. Калі ўжо плаціць дорага, дык прынамсі за добрую якасць. На першы погляд крамы „Унібуду” адзначаюцца якраз добрай якасцю тавараў.

Ян Мікалушка, дырэктар прадпрыемства „Унібуд”, быў задаволены першым днём працы сваіх новых крамаў, а нават „вельмі задаволены”, як сам зазначыў. Калі я год таму браў у яго інтэрв’ю, казаў ён: „Унібуд” знаходзіць сваё месца, дзякуючы таму, што людзі ўвесь час круцяцца, вышукоўваюць нешта новае, мяняюць, мадэрнізуюць”. Дзве новыя крамы ды яшчэ такое шумнае іх адкрыццё паказваюць, што за апошні год сітуацыя фірмы не пагоршылася. Гэта яшчэ і доказ таго, што як бы там не было, людзі дабіваюцца чагосьці толькі працай, уласнай актыўнасцю, а не плачам ды нараканнямі.

**М.В.**

P.S. Ян Мікалушка абяцаў, што гэтая акцыя напэўна не будзе апошняй.

# ПАНАРАМА МІХАЛОЎСКАЙ ГМІНЫ

## 3

## Прыродныя ўмовы

Баравінавы экстракт дае — што паказалі скрупулёзныя аналізы ў Бальнеакліматычным інстытуце ў Познані — добрыя вынікі ў лячэнні рэўматычных, скурных, траўматычных і гінекалагічных захворванняў, калі яго прымяніць да змазвання, кампрэсаў, абгортвання ў розных рода ваннах. У форме мікстуры, аплаткаў, капсул і г.д. гэты ж экстракт можа прымяняцца з добрымі вынікамі ў лячэнні хвароб стрававода.

Прадпрыемства ў Імшары нарыхтоўвае перш за ўсё агародніннны торф і розныя яго сумесі для вырошчвання агародніны ў парніках і цяпліцах. Па заказу прадпрыемства варшаўскія вучоныя апрацавалі найбольш плённыя рэцэптуры сумесяў „МІС-1”, „МІС-2” і „МІС-3”.

Зараз на многа менш, але раней штогод з багны здабывалі 7,5 да 10 тысяч тон торфу. На фабрыцы яго перасушваюць і апрацоўваюць — дробняць, ачышчаюць, перамолваюць, перасяваюць, даводзяць да патрэбнага стандарту. Пасля дакладнага перамяшання з адпаведнай порцыяй розных штучных угнаенняў торф фасуюць ды адпраўляюць заказчыкам. Агароднінны торф і яго сумесі — дасканалая глеба і ўгнаенне для вырошчвання ў цяпліцах і ў парніках ранніх гуркоў, салаты, радыскі, цыбулі, расады і кветак. Усё на ім расце, як на дражджах.

Побач з Імшарам знаходзяцца велізарныя залежы торфу ва ўрочышчы Рабінаўка. Зараз і тут пачалі яго эксплуатацыю. На экспарт высылаюць — час ад часу — таксама карэнне, якога многа ў пакладах торфу. Там выкарыстоўваюць яго ў дэкаратыўных мэтах.

Каля Імшара распаложаны **запаведнік Гарбач**, які займае плошчу ў 114 гектараў. Заснавалі яго ў 1966 годзе. Знаходзіцца тут незвычайнае алігатрафічнае **возера Гарбач** (яго плошча каля трынаццаці гектараў і глыбіня ад 0,4 да 1,2 м). У запаведніку растуць, між іншым, паўночныя нізкарослыя бяроза і вярба ды паўночная лістоўніца. Гэтая апошняя толькі тут знайшла сабе ўмовы да існавання. У іншых мясцінах Польшчы яна ўжо загінула. На берагах гэтага возера растуць яшчэ вельмі рэдкія насякомаедныя расічкі ды балотны верас, вельмі рэдка сустракаемы від асакі і унікальныя водныя мохападобныя. У возеры сустракаюцца такія расліны, як рдзесты, гарлачыкі і харавыя водарасці.

Вясною і восенню ў запаведніку Гарбач затрымліваецца многа пералётных птушак.

## Прыродныя вартасці даліны верхняй Нарвы

Даліна Нарвы ляжыць у макрарэгіёне, які называюць Паўночна-Падляшскай нізінай. Мяркуюць, што пачала яна фармавацца 15—16 тысяч гадоў таму назад. Тут ёсць шмат адгалінаванняў Нарвы, шырокія паплавы з буйнай воднай і балотнай раслiннасцю, з зараснікамі вярбы і альшыны. У некаторых месцах, заліваемых вадой, выступаюць вышэйшыя выспы, зарослыя часта мяшаным лесам.

Такі характар даліны з аграмадным заліўным штучным возерам, між Бандарамі і Семяноўкай, спрыяе не толькі багаццю воднай і балотнай расліннасці, але дае добрыя ўмовы для бытавання рознай жывёлы.

Расліннасць у даліне верхняй Нарвы выконвае разнародную ролю: перш за ўсё з’яўляецца біялагічным фільтрам — збірае ў сваіх тканках сплываючыя з вадой забруджваючыя і таксічныя субстанцыі, але апрача таго яна дае магчымасць знаходзіцца тут, рабіць гнёзды і карміцца цэламу раду водных і балотных птушак, паўзуноў, дробных і буйнейшых млекакормячых.

Рэчышча Нарвы з багатай прыбярэжнай воднай расліннасцю і глыбейшымі месцамі (адпаведнымі для зімавання) стварае добрыя ўмовы для розных відаў рыб. З драпежных рыб тут выступаюць шчупак, акунь і сом, але ёсць тут таксама карп, лешч, плотка, лінь, язь і іншая рыба.

Разнавідная водная расліннасць стварае адпаведныя ўмовы для размнажэння і кармлення рыб. Некаторыя віды рыб маюць спецыфічныя вымаганні ў адносінах да расліннасці, на якой складаюць ікру. Напрыклад, плотка складае ікру на мінулагоднім чароце, лінь — у зарасніках асакі, лешч — на мху-„здройку”, шчупак — на лугавых зарасніках, залітых веснавой вадой. Маладыя рыбкі трымаюцца сярод воднай расліннасці, а найчасцей прычэпліваюцца да яе.

Нарва і яе даліна — гэта адзіны значны водны аб’ект адпачынку для беластоцкай, бельскай і гайнаўскай агламерацый. На думку лекараў і іншых спецыялістаў, адпачынак і турызм, пастаянны кантакт з натуральным краявідам гэта неабходная фізіялагічная патрэба чалавека, якая можа рэгенераваць яго фізічныя і псіхічныя сілы.

Шматбаковыя функцыі выконваюць лугі: гаспадарчыя, грамадскія, эстэтычныя і навуковыя. Паўнатуральныя лугі маюць прыродалячэбнае значэнне, уздзейнічаючы на псіхічны і фізічны стан чалавека. Уплыў іх на здароўе чалавека заключаецца перш за ўсё ў выдзяленні выпарваючыхся субстанцый, а таксама ў павышэнні вільготнасці і ачышчэнні ніжніх слаёў атмасферы ад пылу.

Ёсць яшчэ адзін грамадскі аспект даліны верхняй Нарвы — гэта рыбалоўства. Паколькі гэтая тэрыторыя знаходзіцца ў 30—40 км ад Беластока, то з’яўляецца яна палігонам для сама менш 100 тысяч членаў Польскага саюза рыбаловаў. На адрэзку ракі Нарвы, які знаходзіцца на тэрыторыі Міхалоўскай гміны, ёсць спрыяльныя ўмовы для размнажэння рыб.

*

Вось як адной з цудоўных тутэйшых мясцін захапіўся жыхар горада. І раіць ён з’ездзіць сюды іншым гараджанам. Куды? Вось хаця б за Міхалова, а дакладней — за вёску Новая Воля, па дарозе ў вёску Сушча. У Новай Волі трэба павярнуць з асфальтавай шашы на жвіроўку. Неўзабаве распачнецца тут дрымучы, пераважна сасновы, стары лес, сярод якога жывапісна раскінуліся на палянах адзінокія сядзібы мясцовых сялян.

Вакол першабытны спакой і чыстае паветра, насычанае пахам жывіцы, лясных кветак і спевам птушак.

Непадалёку гэтага месца цячэ рака Нарва, дзе можна пакупацца. Толькі неабходна памятаць аб тым, што Нарва — нават тут, у сваім верхнім цячэнні — небяспечная і здрадлівая. Здарылася ў Бандарах, што адзін хлопец з разгону скочыў у яе і ўжо не выплыў. Выцягнулі яго з вады зусім бездапаможнага. У бальніцы ён і памёр.

Затое вада ў Нарве тут амаль крынічна чыстая. Да прамысловых цэнтраў далёка.

За вёскай Сушча ля моста на Нарве ёсць месца, дзе можна пазагараць. Туды прыходзяць адпачыць і пакупацца маладыя людзі з навакольных вёсак, а таксама ўсё часцей можна тут сустрэць аўтобусы з турыстамі.

*(Працяг будзе)*

**ЯНКА ЦЕЛУШЭЦКІ**

# ДРУГІ ЎСЕБЕЛАРУСКІ КАНГРЭС

Вестка аб выбуху II сусветнай вайны, якую справакаваў Сталін калабарацыяй з Гітлерам, радаснай падзеяй напоўніла душы заходніх беларусаў на вызваленне з жорсткага камуністычнага ярма.

З надзеяй на лепшую і святлейшую будучыню беларускае насельніцтва спаткала надыходзячую нямецкую армію святымі абразамі, хлебам-соллю і кветкамі. Нават адзін беларус, па прозвішчу Жаваранак, парабак з маёнтка Падоршчына, затрымаў мяне на дарозе і радасна прывітаў словамі: „Хрыстос Уваскрос!!!", — і далей кажа: „Пане Зуй, немцы навечна знішчаць чырвоных камуністаў, пякельных пасланцаў і збавяць нас ад жудаснага тэрору і здзеку НКВД над людзьмі і ад ссылкі ў Сібір на мукі і смерць".

На вялікі жаль, азарыўшая надзея беларусаў на свабоду і лепшую долю хутка стала блякнуць. Жорсткі тэрор нямецкага акупанта хутка развеяў радасныя надзеі беларусаў, што немцы пабудуюць ім лепшае бясклапотнае жыццё.

Беларусы спачатку сядзелі ціха і нічога не рабілі ў напрамку ажыццяўлення ўскладаных надзей на лепшую будучыню. Затое нашыя ворагі выкарысталі бяздзейнасць беларусаў і пайшлі на службу немцам ды згодна інструкцыі Масквы і польскага экзыльнага ўрада з Лондана занялі пасты ў паліцыі, працавалі перакладчыкамі, адначасна займалі месцы ў цывільнай адміністрацыі, выконваючы загады свайго галоўнага кіраўніцтва ды фальшывымі даносамі немцам і правакацыяй, нямецкімі рукамі і самі расстрэльвалі свядомых беларусаў як камуністаў і палілі вёскі разам са спакойнымі, ні ў чым не вінаватымі, жыхарамі.

Да гэтай бруднай дзейнасці далучаліся падраздзяленні нашых суседзяў, каб здабыць сабе давер і пашану ад нямецкага нацыста. Ніхто не шкадаваў беларусаў, кожны прыблуда ў Беларусі думаў аб сабе, як яму найлепей уладзіцца. Стварылася беспрасветнае становішча, гітлераўцы не шкадавалі куляў, каб зрабіць у Беларусі вольныя абшары для нямецкіх каланізатараў.

Ніхто з беларусаў не быў пэўным заўтрашняга дня. Бачучы немінуючую сваю гібель, беларусы зварухнуліся, сталі яднацца на барацьбу з усімі сваімі ворагамі. А толькі ў еднасці сіла і перамога. З'яднаная і мудрая палітыка беларускага актыву прывяла да добрых вынікаў. Сталі яны арганізаваць беларускія школы, пераймаць цывільную адміністрацыю ў свае рукі, выцясняць варожы элемент з нямецкай паліцыі і арганізаваць аддзелы самаахавы на барацьбу з бушуючымі начнымі бандытамі. Дзяржаўнае жыццё ў Беларусі стала наладжвацца. Але не было цэнтральнага кіраўніцтва. На пачатку вайны гэтую ідэю немагчыма было ажыццявіць.

У сувязі з няўдачамі нямецкай арміі на франтах, немцы ў сваіх адносінах да беларусаў значна палагаднелі. Беларускі актыў вырашыў выкарыстаць цяжкае становішча немцаў і стварыць цэнтральнае кіраўніцтва — Беларускую Цэнтральную Раду.

Даўжэйшы час немцы не давалі згоды, але прыціснутыя няўдачай на франтах, даюць дазвол на ўтварэнне Беларускай Цэнтральнай Рады. На нарадзе беларускага актыву ў справе кандыдата на прэзідэнта БЦР доктар Язэп Малецкі сказаў: „Лепшага кандыдата на гэты пост няма за праф. Радаслава Астроўскага. Ён добры палітык, патрыёт, патрапіць дагаварыцца з немцамі лепей, чым кожны з нас, а калі немцы расстраляюць яго — гэта не важна".

Беларускі актыў аднагалосна пастанавіў запрапанаваць праф. Радаславу Астроўскаму ўзначаліць БЦР. Спешнай тэлеграмай выклікалі яго ў Менск, прапануючы пост прэзідэнта БЦР. Праф. Р. Астроўскі не згадзіўся прыняць прапанову беларускага актыву і выставіў кандыдатуру Юрыя Сабалеўскага, але пад націскам усіх сяброў актыву, даў згоду ўзначаліць БЦР, з такімі ўмовамі: калі немцы дазволяць утварыць Беларускую Краёвую Абарону (БКА), калі жаўнеры БКА не будуць пасланыя на заходні фронт і калі дапамогуць склікаць Другі Усебеларускі Кангрэс. Праф. Р. Астроўскі імкнуўся, каб праз II Усебеларускі Кангрэс устанавіць у праўнай сіле Акт 25-га Сакавіка 1918 года, які ў 1925 годзе юрыдычна быў пахіснуты Берлінскай канферэнцыяй. Але Астроўскі гэтай галоўнай мэты склікання Кангрэсу не выяўляў нікому з-за асцярожнасці перад немцамі, бо калі б яны аб гэтым даведаліся, не далі б дазволу на скліканне Кангрэсу.

Генеральны камісар Беларусі фон Готберг згадзіўся прыняць прапанову Р. Астроўскага. Дзень змагання за незалежнасць Беларусі на дзяржаўных асновах датуецца 21 снежня 1943 года. У гэты дзень Р. Астроўскі падпісаў пастанову н-р 1, што ён: „У поўнай свядомасці важнасці перажываемай хвіліны і адказнасці перад народам і гісторыяй, з пачуццём шчырага жадання аддаць сябе на службу многапакутнай маёй Бацькаўшчыне, каб супольна з лепшымі сынамі беларускага народу весці яе на шырокі шлях самастойнага і незалежнага існавання. Я з гэтага 21 снежня 1943 года абымаю становішча Прэзідэнта Бел. Цэнт. Рады. (-) Праф. Р. Астроўскі".

У пачатку чэрвеня 1944 года прыехаў да мяне ў Шаркаўшчыну інж. Іван Гінько. У той час я быў начальнікам Шаркаўскага павета, Глыбоцкай акругі. Ён ад імя Цэнтральнай беларускай незалежніцкай партыі, якой я быў сябрам, загадаў мне, пад вялікім сакрэтам, падшукаць сем дэлегатаў на II Усебеларускі Кангрэс, які мае адбыцца 27 чэрвеня. У сувязі з небяспекай варожай сілы, ніхто не павінен ведаць аб скліканні II Усебеларускага Кангрэсу да часу выезду дэлегатаў на Кангрэс. Дэлегатамі мусяць быць у 100% беларускія патрыёты, каб у выпадку канфлікту з немцамі прынялі лепей кулю нямецкага нацыста, чым здрадзілі Беларусь, прызнаючы немцам легальнае права кіраваць беларускім народам. Згодна яго загаду падабраў я сем дэлегатаў, па аднаму ад усіх слаёў беларускага насельніцтва. А менавіта ад адміністрацыі, паліцыі, настаўніцтва, самаахоўы, прафсаюза, сямейства і Саюза беларускай моладзі (СБМ). Я быў упэўнены, што выбраныя дэлегаты на Кангрэс не здрадзяць мяне і хутчэй пойдуць разам са мною на смерць, чым здрадзяць сваю Бацькаўшчыну.

26 чэрвеня вечарам ЦК БНП зрабіў нараду сяброў камітэта. Інж. Іван Гінько прадставіў на зацвярджэнне план зрыву Кангрэсу. Ідэя зрыву Кангрэсу паўстала ў сувязі з падазрэннем прэзідэнта БЦР Р. Астроўскага ў тым, што ён плане зацвердзіць саюз супрацоўніцтва з немцамі і гэтым спляміць беларускі народ перад светам. „Да гэтага ганебнага чыну, мы, сябры БНП, мусім не дапусціць і легчы трупамі за гонар і славу нашай Бацькаўшчыны", — сказаў І. Гінько.

Згодна плану сябры БНП павінны заняць месцы па ўсёй зале Кангрэсу і спакойна сядзець, а калі прэзідэнт БЦР Р. Астроўскі пачне гаварыць, на дадзены знак усе падымаюцца са сваіх месцаў, крычаць, пратэстуюць і зрываюць Кангрэс.

Прысутныя сябры БНП пагадзіліся з прапанаваным планам. Тады я забраў голас і задаў канкрэтнае пытанне інж І. Гіньку: „Якія факты даказваюць, што праф. Р. Астроўскі плане спляміць на Кангрэсе беларускі народ у вачах цэлага свету?" Інж. І. Гінько адказаў: „Астроўскі трымае ў сакрэце, што ён плане зацвердзіць пры дапамозе Кангрэсу. У сувязі з недаверам Астроўскаму ЦК БНП вырашыла сарваць Кангрэс, і не даць яму магчымасці спляміць беларускі народ супрацоўніцтвам з нямецкімі нацыстамі. Можа гэта будзе каштаваць нам жыццё, але для дабра Бацькаўшчыны мы не павінны шкадаваць яго". Пасля паяснення аб прычыне планаванага зрыву II Усебеларускага Кангрэсу звярнуўся я да прысутных са словамі: „Сябры БНП, ад часу I Усебеларускага Кангрэсу і абвяшчэння Незалежнай Беларускай Народнай Рэспублікі Актам 25-га Сакавіка, прайшло чвэрць стагоддзя. Бальшавіцкая Масква, брутальнай мілітарнай сілай знявечыла волю народа, выказаную Актам 25-га Сакавіка 1918 года і накінула беларускаму народу сурагат БССР і цынічнай маной дурманіць свет, што беларускі народ сам дабравольна прыняў такую форму сваёй дзяржавы — БССР. За гэты час у вызвольнай барацьбе загінулі мільёны беларускіх патрыётаў ад кулі ў затылак, якіх не шкадавалі каты з НКВД, і высланых на здзекі і смерць у лагеры Сібіру. Сягодня надараецца маленькая магчымасць афіцыйна заявіць свету аб сваёй цяжкай крыўдзе ад акупантаў і непахіснай волі і жаданнях быць вольным і незалежным народам у сваёй Беларускай Дзяржаве. Дзеля таго лічу няправільным зрываць Кангрэс з-за падазрэння да прэзідэнта БЦР Р. Астроўскага, што ён сваім заяўленнем на Кангрэсе акампраметуе беларускі народ у вачах свету". Я падаў другі план дзейнасці сяброў БНП: заняць месца ў зале Кангрэсу і пільна сачыць за кожным словам прэзідэнта Р. Астроўскага і, калі скажа хаця адно слова, якое можа кампраметаваць беларускі народ, падымаемся са сваіх месц, крычым, пратэстуем і зрываем Кангрэс. Першы адобрыў маю прапанову Міхась Рагуля, а затым усе прысутныя сябры. Пазней, у прыватнай размове, праф. Р. Астроўскі сказаў мне, што ён нікому не выдаваў свайго сакрэту ўстанавіць Кангрэсам у праўнай сіле Акт 25-га Сакавіка 1918 г. таму, каб аб гэтым не даведаліся немцы і не забаранілі склікаць II Усебеларускі Кангрэс.

Назаўтра, 27 чэрвеня 1944 г., мы ішлі на Кангрэс з цвёрдай пастановай, калі будзе такая патрэба, аддаць сваё жыццё за волю і гонар сваёй Бацькаўшчыны.

Меркаванні БНП не спраўдзіліся. II Усебеларускі Кангрэс прайшоў з вялікім нацыянальным уздымам. Зала гудзела бурнымі воплескамі, узнагароджваючы прамоўцаў за патрыятычныя словы. Патрыятычны ўздым і непахісная вера гарэлі ў душах 1039 дэлегатаў, што прыйдзе час і Беларусь скіне з сябе ярмо акупантаў і стане вольнай, суверэннай і незалежнай дзяржавай. І пад бурныя воплескі, аднагалосна, была прынята наступная рэзалюцыя:

„Другі Усебеларускі Кангрэс, сабраўшыся ў Менску, праз чвэрць стагоддзя пасля Першага Усебеларускага Кангрэсу і выслухаўшы даклады аб падзеях у Беларусі ў часе паміж абодвума Кангрэсамі, аднагалосна пастанавіў:

1: Прызнаць правільнай і зноў пацвердзіць гістарычную пастанову Рады Беларускай Народнай Рэспублікі, якая маючы паўнамоцтвы Першага Усебеларускага Кангрэсу 1917 г. на сваім сходзе 25-га Сакавіка 1918 г. Урачыстай 3-ай Устаноўчай Граматай вырашыла аб канчатковым разрыве Беларусі з бальшавіцкай Масквою і расейскай дзяржавай ва ўсіх яе формах.

2: Пацвердзіць, што беларускі народ ніколі не прызнаваў і ніколі не прызнае ў будучыні за форму сваёй беларускай дзяржаўнасці, накінутай яму маскоўскімі захопнікамі формы БССР.

3: Паведаміць усе ўрады і народы свету, што голас Масквы і СССР у беларускіх справах не мае ніякай праўнай сілы, а ўсе, твораныя Масквою нібыта беларускія ўрады, не маюць ніякіх праўных кампетэнцыяў, бо не прызнаюцца беларускім народам.

Таму ўсе ўмовы ці аднабаковыя пастановы ўрадаў: СССР, былой Польшчы і сучаснага эміграцыйнага ўрада Польшчы, якія датычаць тэрыторыі Беларусі і беларускага народа, і якія былі зроблены раней, або будуць зробленыя ў будучыні, Усебеларускі Кангрэс абвяшчае не маючымі ніякай праўнай сілы, як не будуць мець сілы і ўсякія іншыя магчымыя спробы падзелу Беларусі з боку іншых дзяржаваў і народаў.

4: Адзіным праўным прадстаўніком беларускага народа і яго краю з'яўляецца сягодня Беларуская Цэнтральная Рада з прэзідэнтам Радаславам Астроўскім на чале.

У безупыннай барацьбе за свабоду і незалежнасць беларускі народ на працягу стагоддзяў выкарыстоўваў кожную магчымасць праяўляць на вонкі свае непахісныя жаданні вызваліцца з ярма акупантаў і таксама скарыстаў з аслабшага ў вайне акупанта і склікаў Другі Усебеларускі Кангрэс ды аднагалосна прынятай рэзалюцыяй разбіў ману ворагаў аб Беларусі, зацвярджае і пашырае ў правах Акт 25-га Сакавіка 1918 года".

Вольныя народы свету пазналі праўду аб беларускім народзе і яго нязломнай барацьбе за свабоду і незалежнасць, працягнулі яму руку дапамогі стаць вольным і незалежным.

**Удзельнік**
**II Усебеларускага Кангрэсу**
**МІХАСЬ ЗУЙ,**
**горад Сідней,**
**Аўстралія**

# КАНЕЦ САЛОНАЎ, ІДЗЕМ У НАРОД!

*Працяг са стар. 1*

яшчэ сказаў, абляпіць плакатамі Беласток на два тыдні часу — тут ідзе пра чатыры гады і з думкаю пра іх трэба рабіць рахунак.

У галасаванні Кангрэс выказаўся за тым, каб тэрытарыяльныя рады мелі вырашальны голас у выпрацоўцы выбарчай тактыкі.

Перад выбарам новага кіраўніцтва партыі Кангрэс прыняў пастанову аб вяртанні органа каардынатара Краёвай управы БДА. Пастанавіў таксама, што выбары будуць яўнымі, а набор у органы БДА будзе праходзіць па мінімальнай статутнай колькасці.

Кангрэсавая камісія на старшыню Галоўнай рады БДА запрапанавала Мікалая Валіцкага. Дэлегаты паставілі яшчэ кандыдатуры Пятра Крука і Уладзіміра Паца. Мікалай Валіцкі, адказваючы на пытанні дэлегатаў, выказаў погляд, што беларускіх арганізацый зашмат ды на яго думку трэба імкнуцца да аб'яднання іх на адной платформе. Платформе гэтай, заўважу, не пярэчыць яго асабістая прыналежнасць да Таварыства „Русь". Дэлегаты на старшыню Галоўнай рады выбралі Пятра Крука. У кандыдаты на функцыю каардынатара Краёвай управы БДА былі пастаўлены Мікалай Валіцкі і Уладзімір Пац. Кангрэс выбраў Уладзіміра Паца. У Галоўную раду былі выбраны наступныя асобы: Валянцін Сельвясюк, Уладзімір Карнілюк, Антон Мірановіч, Пятро Багроўскі, Пятро Юшчук, Ян Мордань і Міраслаў Пякарскі. У Галоўную рэвізійную камісію БДА ўвайшлі: Віктар Швед, Уладзімір Клімюк і Віктар Стахвюк (старшыня). Кангрэс прыняў яшчэ пастанову аб членскіх складчынах (120 тысяч злотых у год).

**А. МАКСІМЮК**

# БЕЛАВЕЖА

*СТАРОНКА ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ № 411*



*САКРАТ ЯНОВІЧ*

## ПОЗНІ РОЗУМ АЛЕГА

Начамі грымела ў Лапіцкіх горах, парыла духоццем. У даліне — каторы дзень! — стаяла сонечнае, хоць замглёнае ў небе, пагоддзе. У свята Ільі і пасля яго дажджы не падалі. Сярэдзіна лета. У такую пару здараюцца вечары, у якія няма чым дыхаць ад бязветранай цішы. Затыкае тады ад моцнага паху медуніц пад вокнамі. Звіняць камары, што хмурынкаю вірующь пад блізкай лістотаю вішні. Кідаюцца на шыбы спасаўскія мухі, ужо не куслівыя. Міготка залятаюць пад апухі ластаўкі; гняздуюць яны ў руінах, пакінутых за Гарбарнай, жыдоўскіх мурoў. Цямнее яшчэ даволі позна, можна паспець парабіць задуманае ўрань.

Алег, нарадзіўшыся тут і выгнаўшыся ў кавалеры, жыў — аднак — у глыбі Польшчы, дзе лягчэй з грашыма ды выгодаю. Не ён адзін так. Зорны час ягонаму пакаленню ўсё ж праламаўся як бы напалову: маладую ўдачу і радасць ад яе рана зямніў дарослы смутак лішняга чалавека. Гэта немагчыма было яму прадбачыць. Свет, які вітаў некалі юначага Алега, здаваўся навек уладкаваным. Дзеці, думалася ў жаніцьбу, павінны будуць толькі лепей паўтарыць бацькаў лёс. Але, адбылося зусім іначай.

Дваццатае стагоддзе шалёнае ад пачатку да канца. Яго сутнасць у неварагодных спадзяваннях, разважаў цяпер Алег. І шчымліва нагадалася жонка: не вернецца яна з Мюнхена, забраўшы з сабою меншага хлопца. Сказала, у нечым смешна і страшна: „Я не ўваскрэсну, каб паспытаць, урэшце, камуністычнага раю, а пакуль што ў нас пекла і ў мяне няма ахвоты заставацца ў ім!".

Нагаварылі адно аднаму, вядома, глупстваў. Яна, цалкам проста, павяла сябе, як тая — тысячагадовай даўнасці — варварка, што ўпадабала была заальпійскі камфорт антычнага Рыма... Больш сын знік затое звычайна, без тэатральных жэстаў. Праўда, з дзеўкаю — дайшлі потым чуткі — з высокапастаўленага дому. Паехаў ён нібы ў экскурсію... Сам зарабіў на гэта, занядбаўшы прытым сваю палітэхніку. Даслаў з таго канца зямлі паштоўку: „Тата, Маманька! Не турбуйцеся за нас. Дасць Бог, калісьці запросім Вас да сябе". Унізе дапісалася ягоная Хрысця: „Нам тут добра. Працуем. Не злуйцеся на нас. Моцна абымаю — і прашу зразумець!" І ўсё, без даты. На амерыканскім паштовым штампе невыразна адбілася назва горада.

Вось як: была сям'я, няма сям'і. Усё роўна што вымерла... І каб віна, хаця б абы-чыя, вызначылася!? Алег не пакідаў начэквацъ, сам не ведаючы чаго. У адранцвенні ад раптоўнасці.

Патраціўшы здароўе на рабоце — працаваў у складзе з атрутнымі рэчывамі лабараторыі аптэкаў — ён атрымаў даволі прыстойную інвалідную пенсію. Жонка, зрэшты, таксама ў тым Мюнхене не стала хлеб шылам есці: у палякаў — а яна з іх — усё якіясьці сваякі ў заходнім замежжы. Найболей крыўдна рабілася Алегу на душы за тое, што жыццё пражыў як быццам не для сябе, ці — не за сябе. І не для кагосьці, аказваецца, а ўсяго ў дачэпку камусьці. Горай: у чыйсьці дэсерт...

Увык вагацца. Колькі памятае сябе, усё вагаўся. У важным і ў няважным. Вагаўся пусціцца і на гэты апошні рашучы крок. Незнарокам, пэўна, дапамагла яму ў гэтым сама жонка, дасылаючы ўперадвялікдзень пачку з каланіяльнымі смачнотамі. Абразіўся за гэта на яе горш, чымсьці тады, на мюнхенскім вакзале... Можа быць не выбухнуў бы нястрымным абурэннем, калі б у канверце са спіскам упакаваных рэчаў знайшоўся яшчэ асабісты ліст да яго, няхай кароткі, у некалькі звычаёвых фразаў. Ды анічога, акрамя прадуктаў, падкрэслена шкоўных. „Значыць: хваліцца баба! — ускіпеў Алег. — Дулю паказвае мне, кпіць!"

Кватэру з мэбляю здаў у арэнду амаль назаўтра, за тры мільёны ў месяц вёрткаму бізнесмену з цыганаватай каханкаю. Узяў з яго плату за год наперад. Прыхапіўшы апранахі, з'ехаў на ўсход Польшчы, у паўзабытую тут хату, што ўчарнела на закрапівелым падворышчы ў гэтай даліне (даўжэй за бацьку пажыла маці). Жонка падштурхоўвала на продаж халупы, але не ўдавалася напытаць купца на яе. Алег цяпер з'явіўся сюды, бы запозненых сын марнатраўны. І неяк прыемна здзівіўся быў нават, што дуга жыццёвага шляху прывяла ў мясціну дзяцінства зноў жа не аднаго яго... Шмат-дзе ў ваколлі стукалі і грукалі, рамантавалі. Нікуды, аднак жа, не хадзіў, каб пазнаваць, аднаўляць сяброўства. Навошта і аб чым жа гаварыць з імі, гэтулькі гадоў не бачыўшыся? А папраўдзе, баяўся, што пойдзе гаворка ўсё пра тое самае, ад чаго ўцёк не без панікі з шумнага, а так нечакана пачужэлага яму вялікага горада блізу Нямеччыны. Пра грошы, якіх мала і мала. Выклікала гэта ў Алега одум, што заробкі ўсё так адбываюцца, каб не хапала іх на нешта большае, акрамя хлеба надзённага, лахманоў на хрыбет, чаркі пры свяце. І каб абы падаткі якія аддаць. Высілкі грамадства круцяцца вакол мінімалізму. Толькі некаторыя ў ім пераскокваюць нібыта зачараваную рысу кола беднасці, спазнаючы цялеснае ўзнясенне.

Яму прыкра было ўсведамляць тое. Маючы ўжо за сабою галоўнае, менавіта радасць існавання, завершаную стварэннем сям'і. Апынуўся вось у шоку, бездапаможным, як слабеючае бзыканне мухі ў павуцінні. Даходзіла да яго запозненае разуменне жыццёвае ўдачы, якая раней уяўлялася бяздумна абавязковай даросламу. А яна гэтак жа рэдкая або і унікальная накшталт шчасця. Як цуд, які не здараецца незаслужана.

*CZESŁAW SENIUCH*

### BRACIA, SZUKAM BOGA!

„Wieźli nas na ciężarówce.
Stanęliśmy.
Jeden chłopczyk
Poprosił się na stronę.
Pozwolili.
Ale wypuścili za nim
Złe owczarki.
Psy na moich oczach
Rozdarły chłopczyka.
Odtąd żyję
Z rozdartym sercem". *)

Zagubił mi się Bóg.
Wierzę. Wierzę.
Wierzę, że nie rozdarły go
Owczarki
W małym bezimiennym
Białoruskim męczenniku.

Bracia! Szukam Boga.
Boga naszego.
Pomóżcie go znaleźć,
Bracia z Białej Rusi!

***) Z listu-spowiedzi jednego z białoruskich „Dzieci Wojny" z książki pod tym tytułem.**

**Grudzień, 1989.**



*Рыс. Міколы Давідзюка*

## РЭДКІЯ ІМГНЕННІ

*Старшыня літаратурнай „Белавежы" Ян Чыквін, добры анёл „Белавежы" і яе польскі прапагандыст Тэрэса Занеўская, і адна з найпершых паэтэс „Белавежы" Надзея Артымовіч (з кубкам кавы). Унікальнасць гэтай сітуацыі, якая мела месца познім вечарам 24 лютага г.г., заключаецца ў тым, што беларускіх літаратараў запрасілі да сябе бізнесмены (фірма „Амэга" ў Бельску). Былі яшчэ Юрка Баена, Міхась Андрасюк, Андрэй Сцепанюк, Сакрат Яновіч, мастак Лёнік Тарасэвіч... Выдаткаванні „Амэгі" на ўспамажэнне нашага прыгожага пісьменства даўно перасягнулі сотню мільёнаў злотых. Без багатага мецэната няма і ніколі не было мастацтва; калісьці спрыяла паэтам арыстакратыя, сёння дарастаюць да яе ролі асвечаныя плебеі, якія набываюць грамадскі статус буржуазіі заходняга тыпу.*

*Што ні казаць пра „Амэгу", але яна першая ў нас зразумела, як быццам, што хлеб без культуры не бывае.*

**(ся)**





*АНДРЭЙ СЦЕПАНЮК*

### працяг

і можа
таму
што я
да вас
не прыстаў
адкрываецца
ў мазгах
той жаль
той боль
і той
вечны праклён
і нечыстотам
жыцця
паклон
і туга
за агідай
быцця
за гарэлкай
за грахом
без дна
за каханнем
без веры
ў сэнс
толькі так
як звычайны
працэс
бо прыйсці
я да вас
не хачу
вы забралі
мне ego
душу
без якой
я ўстарэлы
курган
без якой
спарахнелы
дуплан
а на сэрца
я сам
палажыў
пах вянкоў
і шум ніў
у якіх
толькі белы
мой свет
у якіх
тысяча розных
прыкмет
у якіх
я дзіцячай
рукой
зноў пішу
адурэлы
спакой
аднак гэта
ўжо толькі
мае
не адданае
ніколі і нідзе
закапанае
ў радасць
і боль
у адну
недайграную
ролю

Зорка
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

**З вучнёўскай творчасці**

## РАДЗІМА

Я люблю сваю Радзіму,
Дзе спяваюць жаўрукі,
Дзе буслы клякочуць зранку
Пра вясёлыя дзянькі.
Дзе бруіцца між каменняў
Залацісты ручаёк,
Дзе красуецца на ўзлеску
Прыгажун наш васілёк.
Дзе бялявыя рамонкі
Цешаць сэрца кожны год,
Дзе бярозкі сталі разам
У вясёлы карагод.
Ты квітней, мая Радзіма,
Будзь прыгожая заўжды!
І каб сонца ззяла ярка,
Усім людзям на Зямлі!

**МАРЫНА ГРАК,**
**Вежаўская СШ,**
**Слуцкі раён.**



*Перад сном Віця заўсёды чытае Паўліку казкі.*
**Фота М. Сахарэвіча**

## ЯК ВАРОНА КАРКАЦЬ СТАЛА, А Ў ДЗЯТЛА ЧЫРВОНЫЯ ШТАНЫ З'ЯВІЛІСЯ

*Казка*

Некалі, бывала, і варона спявала. Ды як! Сядзе на яліну — і давай залівацца! Пяе-распявае, голасам бор здзіўляе:

*Карапуз-бакас*
*Лётаў да мяне не раз.*
*Браў даніну з баравін*
*Кашалямі журавін.*
*Частаваў, раставаў,*
*Жаніцца прыставаў.*
*Ды ў мяне няма ахвоты*
*Да яго ісці ў балота.*
*Хоць і ў княжай ён кароне,*
*Ды не пара мне,*
*Вароне!*

Вось якая доўгая ды прыгожая была песня ў вароны. Магчыма, крыху выхвалястая, ды гэта не так важна. У лесе ўсе птушкі сябе нараспеў расхвальваюць. Так у іх заведзена.

Кепска было тое, што варона спяваць не ўмела, а толькі крычала. Ды так гучна, што трава па зямлі слалася, з красак раса асыпалася, а маладыя дрэўцы, як ад ветру, пагойдваліся. У той час, як варона спявала, астатнія птушкі галовы пад крыло хавалі. Апрача дзятла. Калі барабаніш уласным носам па дрэве, не вельмі яно чужыя песні чуеш. Нават самыя гучныя.

А іншым птушкам варона спяваць дужа замінала. Як ім было спяваць, калі ўласнага голасу не чуваць?

А каму прыемна адну вароніну песню слухаць?

Сумна было птушкам. Зляцеліся яны на Вялікі Дуб, сталі раду радзіць, як варону ўтаймаваць. Шмат птушак сабралася — з усяго лесу, поля, балота, нават з суседняга гароду.

Дзяцел і той наведаўся. Супраць вароны ён нічога не меў, быў глухаваты, але і ён быў рады са сваякамі паклапаціцца, сярод птушак пакруціцца, гасцей прылётных паглядзець дый сябе паказаць. Прыляцеў, вярхом на крывую бярэзіну сеў — слухаць пачаў. А слухаць было што. У лесе такі шум стаяў, што з Вялікага Дуба жалуды дажджом сыпаліся. І чаго толькі птушкі не прапаноўвалі, каб прымусіць варону замаўчаць.

— Адлупцаваць пасярод току! — раіла сарока.

— Вырваць ёй хвост! — раіў дрозд.

— Заліць рот вадой! — раіў казадой.

— Павесіць на дзюбу замок! — раіў галубок.

— Ад песень адкупіцца! — раіла сініца.

— Здароўкацца як найгрубей! — раіў верабей.

А вароне да птушынага сходу і справы не было — непадалёку на яліне сядзела: нагамі ў сук упіралася, птушак перакрычаць старалася.

Спявала-распявала, голасам бор здзіўляла.

Птушкі толькі нашашэрваліся ад варонінай песні ды крычалі-стараліся — прапановамі набіваліся. Асабліва бакасу не па сабе было ад варонiных спеваў.

Каму хочацца, каб пра яго на ўвесь лес розныя непрыемныя падрабязнасці на ўсё горла расказвалі?

І што з варонай — крыклівай ды выхвалястай — зрабіць? Птушкі нават асіплі ад спрэчкі, а нічога слушнага прыдумаць не маглі.

Тут узляцеў на самую высокую галіну дуба нахохлены бакас.

— Я пр-р-рапаную!.. Я пр-р-рапаную!.. — закрычаў ён як мага гучней, каб шум перакрычаць.

Ён так крычаў-стараўся, ажно пачаў заікацца, чаго раней з ім не здаралася:

— Я пр-р-рапаную дар-рагі прыз таму, хто адвучыць вар-р-рону пра-р-рэ-зліва спяваць розныя недарэчныя песні!

І бакас выхапіў з кужэльнай торбы, якая заўсёды ў яго пры боку матлялася, новыя, рублёвыя чырвоныя штаны. Такія штаны, якія толькі па святах носяць. Ён узмахнуў імі над сабой, і ў зялёных лістах дуба быццам вясёлы агеньчык засмяяўся.

— Штаны — няма ім цаны — класныя! — закрычаў бакас.

— Чырвоныя, атласныя! — закрычаў бакас.

— Не шытыя, ні разу не мытыя! — закрычаў бакас.

— У выраі набытыя! — закрычаў бакас.

— Новыя, не ніцаваныя! — закрычаў бакас.

— Ні разу не надзяваныя! — закрычаў бакас.

— Іх той будзе надзяваць, хто варону адвучыць спяваць! — закончыў бакас з апошняе сілы і, каб супакоіцца, раскінуў крылы.

Птушкі ад такой прапановы аж знямелі. Падумаць толькі — такая ўдача ў святочныя штаны прыбрацца: класныя, атласныя, не ніцаваныя, не надзяваныя.

Потым усе разам зашумелі — да бакаса паляцелі. Уселіся на галіну — дубовая галіна да зямлі сагнулася. Мітусяцца. Бакасаў прыз — штаны новыя, рублёвыя навобмацак і наўдзюб спрабуюць.

А як іх займець — ніхто не ведае.

Тут і прабіўся да бакаса дзяцел.

— А ну, пакажы, — да штаноў пацягнуўся.

Памацаў-пакамячыў, з усіх бакоў дзеўбануў і пахваліў:

— Трывалыя!

На свае штаны паглядзеў, а яны — пакамячаныя, паабшарпаныя, усе ў смале і з дзіркамі на каленях. Нічога дзіўнага — столькі год дзяцел па дрэвах лазіў. Даўно штаны мяняць час...

— За новыя штаны я і мядзведзя лётаць навучу, не толькі варону адвучу ад песень, — заявіў дзяцел і папярэдзіў бакаса: — Толькі глядзі, каб без шальмоўства...

Узмахнуў дзяцел крыллем і паляцеў у той бок, адкуль вароніны спевы даносіліся. А за ім Вялікі Дуб, як ад навальніцы, зашумеў. Гэта птушкі галовы адначасова павярнулі — услед дзятлу паглядзелі. Адны — з захапленнем. Другія — са здзіўленнем. Трэція — са з'едлівасцю: ляці сабе, ляці. Нічога ў цябе не атрымаецца. Мы вунь колькі сядзелі-думалі — нічога не надумаліся.

А дзяцел тым часам да яліны, на якой сядзела варона, падлятаў.

*(працяг будзе)*
**ІВАН БУРСАЎ**

## Вершы Віктара Шведа

### АХОВА ПРЫРОДЫ

Настаўнік вітаючы клас
Паважна спытаў, як заўсёды:
— Хто, дзеці, цікавіцца з вас
Так важнай аховай прыроды?

— Я, — адазваўся Максім,
Удзельнік ахоўнага руху. —
Мухалапку парэзаў зусім,
Якой забіваў бацька мухі.

### ЗМАНЛІВЫ СОН

— Чаго ты плачаш? — рана мама
Спыталася сынка Адама.
— Мне сон прысніўся невясёлы,
Быццам згарэла наша школа.

— Дык гэта ж толькі сон, сыночак,
Слязіць не трэба сваіх вочак...
— Таму я і заплакаць мусіў,
Што гэта толькі сон, мамуся!

### ЧАМУ СПІШ У КЕДАХ?

Рана запытаў Сярожка
Сябра вернага Альфрэда:
— Чаму, дружа, спіш у ложку
Не здымаючы з ног кедаў?

Той, як быццам вінаваты,
Адказаў Сярожу потым:
— Не паспеў яшчэ мой тата
Ад шаўца прынесці боты.

### СТАРАЖЫТНАЯ ВАЙНА

Настаўнік расказаў аб тым,
Як прад дзве тысячы гадамі,
Славуты старажытны Рым
Вайны вёў жорсткія з жыдамі.

Азваўся, як заўжды, Якуб:
— Цікава, хто ў вайне меў шанцы,
І на чым тады баку
Змагаліся амерыканцы?

### ГІПАКРЫТ

Урок пачаўся выхавання.
— Разумныя вы ўсе, нібыта,
Дык адкажыце на пытанне:
Каго завем мы гіпакрытам?

З адказам паспяшаўся скора
Няўрымслівы заўжды Мікола:
— Ды гэта той, які гаворыць,
Што любіць ён хадзіць у школу.

### ГІСТОРЫЯ НАМ ЛЮБІЦЬ ПАЎТАРАЦЦА

— Ці, татка, памятаеш гэта ты,
Як мне расказваў з аграмадным жалем,
Што не пазбегнуў рознай дурнаты,
Калісь цябе са школы выкідалі?

Хачу сказаць, любімы татка мой,
Бо вымушаны я табе прызнацца,
Што здарылася гэтае і са мной.
Гісторыя нам любіць паўтарацца...

## ЛАГАГРЫФ



1. без вакон, без дзвярэй, поўна хата людзей, 2. агонь, бачны над тым, што гарыць, 3. прыбор, у якім намагнічаная стрэлка паказвае поўнач, 4. папулярны метал, 5. алімпійская залатая, сярэбраная або бронзавая ўзнагарода, 6. збожжа з вусатымі каласамі, з яго робяць кашу.

Вылучаныя літары складуць назву беларускага горада, у якім знаходзіцца м. інш. фабрыка сельскагаспадарчых машын.

Адказаў чакаем два тыдні. За правільныя адказы — кніжныя ўзнагароды.

# ПАДАРОЖЖА ПА МОВАЗНАВІІ

**20**

*(працяг з папярэдняга нумара)*

## З мухі — слана...

Як ператварыць ката ў мыш? Проста: *кот — кош — кыш — мыш*. Ведаючы, як гэта робіцца, зрабіце з мухі слана, потым са слана — зноў муху. Цяпер — замест аднаго ваўка няхай з'явіцца некалькі коз.

Гэта гульня, як бачна, таксама заснавана на замене адной толькі літары, але перамагае ў ёй той, хто не толькі здзейсніць ператварэнне, але і для гэтага знойдзе карацейшы шлях.

Для размінкі ператварыце дрэва ў нагу жывёлы, а потым тое ж дрэва ў музычны інструмент, у пушнога звера, у бяду...

А цяпер — хто хутчэй ператворыць раку ў мора, ільва ў вала, зіму ў лета, год у век, дым у вар? Хто рэчку ператворыць у рыбку, а рыбку пасадзіць у банку?

Вам спадабалася быць чараўнікамі? Калі ласка, заставайцеся імі і прыдумайце, каго б яшчэ ператварыць у штосьці. І наадварот.

## Непісьменная машынка

Мама Анюткі, настаўніца, друкуе на машынцы заданні для граматычных гульняў з вучнямі. Анютка ходзіць вакол, капрызіць, патрабуе:

— Дай мне машынку! Я хачу друкаваць! Я ўмею!

— Пачакай, — кажа мама, — у мяне тэрміновая работа, хутка я закончу, і тады ты будзеш друкаваць.

Закончыўшы, мама пайшла гатаваць вячэру, Анютка — за ёю на кухню.

— Ты ж друкаваць хацела, — напомніла мама.

— Хацела і расхацела, — буркнула Анютка. Але ёй няёмка стала, што дарэмна перашкаджала маме, і яна пайшла да машынкі.

Пасля вячэры мама паглядзела, што надрукавала дачка:

*1) Ад прастуды лечацца лёдам.*
*2) Сыр бацькам часта піша з арміі.*
*3) Паклажу ў горы павезлі на мухах.*
*4) Кіт ганяўся за мышамі.*

— Ой, дачка, — засмяялася мама, — колькі ж ты памылак нарабіла! Хутчэй выпраўляй іх.

— Не буду! — надзьмулася Анютка. — Гэта не я, а машынка памылак нарабіла, хай яна і выпраўляе!

Ну, што ж, даводзіцца нам дапамагчы ўпартай Анютцы. А затым, каб і ў нас часам не з'явіліся такія памылкі, зоймемся трэніроўкай і вызначым, колькі слоў можна ўтварыць, паставіўшы розныя літары замест пытальных знакаў: *?оўк, ла?, ?аза, ?ок, ?ом, к?т, л?г, ?орт, ма?, ?айка, ?ук, ?арта, ?ак, ?алка, ?ара* — гэты спіс працягвайце далей самі.

## Паронімы

Паронімамі называюцца словы, падобныя па гучанню, але розныя па значэнню аднакарэнныя словы; іх іншы раз блытаюць і няправільна ўжываюць у мове. А між тым яны адрозніваюцца адно ад другога адной ці некалькімі літарамі, што і дапамагае, гуляючы, папярэдзіць памылкі або пазбавіцца ад іх. У гульню неабходна запрасіць нашага вернага сябра — Тлумачальны Слоўнік: толькі з яго дапамогай мы можам дакладна разабрацца, што *дыпламат* (супрацоўнік міністэрства замежных спраў) і *дыпламант* (узнагароджаны на конкурсе дыпломам) — не адно і тое ж, хоць і паходзяць ад аднаго кораня, як і размоўная форма *дыпломнік* (той, хто рыхтуецца абараняць дыпломную работу).

Каб упэўніцца, што вы сябруеце з ім, Тлумачальны Слоўнік просіць падабраць кантэкст (сказ або словазлучэнне) і растлумачыць вусна значэнне слоў: *ферма — фірма, пірог — пірога, факт — фактар, адрасат — адрасант, ампер — ампір, камандзіраваны — камандзіровачны, лоцман — боцман, эскалатар — экскаватар, экспарт — эксперт*. Ці ўсе тут словы паронімы?

Яшчэ заданне: у чым розніца паміж словамі *ёмкі — ёмісты, дарыць — дараваць, жаданы — жадаемы, сыты — сытны, цікавы — цікаўны, убіць — забіць, гераічны — геройскі, чытач — чытальнік, злосны — зласлівы, старшы — старэйшы, сварыцца — зварыцца, адплываць — уплываць, утварыць — стварыць, рухавы — рухомы, гукавы — гучны, асвоіць — засвоіць*. Перакладзіце іх на польскую мову.

А цяпер — падлічвайце балы, вызначайце пераможцаў.

*(працяг у наступным нумары)*

Беларускія святы

# БЛАГАВЕШЧАННЕ

На Благавешчанне (Дабравешчанне, Звеставанне), як і на кожнае свята, забаранялася што б там ні было рабіць: „На Благавешчанне дзеўка косу не пляце, птушка гнязда не ўе". Праваслаўная царква адзначала зачацце Маці Божай Ісуса Хрыста. У народзе свята гэта мела старажытныя карані, яно лічылася днём надыходу вясны. Шмат дзе якраз на Благавешчанне (а ў некаторых мясцовасцях, як ужо зазначалася, нават раней, у залежнасці ад традыцый і, вядома, ад надвор'я) адбывалася гуканне вясны.

*Дабравешчанніко святое,*
*Пашлі сонейка залатое,*
*Каб зямелька адышла*
*Ды вясна да нас прыйшла,*
*Каб распусціліся ветачкі,*
*Каб раскраснеліся кветачкі,*
*Каб лугі зазеляненліся,*
*Нашы нівачкі адзеліся.*

Дзяўчаты ўсёй вёскі выходзілі кудынебудзь на ўзвышша і спявалі, пакуль не сцямнее, вяснянкі. Сялянам хацелася верыць, што наступны гаспадарчы год, які з гэтага дня пачынаецца, прынясе багаты ўраджай, шчасце ў дом. Часта на Благавешчанне згадвалі птушак. Адны гаварылі, што ў гэты дзень бусел прылятае, другія — што ён кладзе яйка ў гняздо. „Як за тыдзень да Благавешчання прыляціць бусел, то ў свірне на засек трэба дошку накладваць — поўна пашні будзе, добры ўраджай, а як пасля Благавешчання — то трэба знімаць дошкі, бо не засыпеш поўных засекаў" — гэтак разважалі на Случчыне. Благавешчанне было вяхою ў прадбачанні надвор'я. Калі свята аказвалася цёплым, селянін мусіў чакаць марозную восень, і наадварот, снег, што заляжаўся да гэтай пары, абяцаў цёплую восень. Гаварылі, што такое ж надвор'е, як на Благавешчанне, павінна паўтарыцца і на Вялікдзень. Па асаблівасцях гэтага дня рабіліся прагнозы на ўраджай. Як на Благавешчанне дождж — збярэш багата хлеба; калі суха, то летам магчыма засуха. Умеранае надвор'е — умеранае будзе лета і такі ж ураджай. Пасля гэтага дня дазвалялася ўрабляць зямлю пад новыя пасевы (да гэтага часу зямля спіць і чапаць яе няможна). Як спявалася ў народных песнях, „Благавешчанне — араты на ніву... і каня вядзець, і саху нясець, заворваець".

**УЛАДЗІМІР ВАСІЛЕВІЧ**

# КРАСАВІК

Гэты месяц на адным дні сем разоў надвор'е мяняе. То цэлы дзень свеціць яркае сонца, то дзьме халодны вецер, ідзе дождж са снегам. З кожным днём сонца грэе мацней, весялей спяваюць птушкі. Растаюць апошнія снежныя астраўкі. Узгоркі падсохлі, і на сонечным баку засвяціліся першыя кветкі падбелу. Услед за імі з'яўляецца карагод ружовых і сініх медуніц, чубатак, жоўтага і белага кураслепу, блакітных пралесак. Адначасова зацвітаюць вярба, вольха, арэшнік, воўчае лыка.

На рэчцы трэскаецца лёд, ламаецца і з шумам імчыць па цячэнню. Разводдзе. Прыбярэжныя лугі, хмызнякі — усё пад вадой. У народзе кажуць: „Красавік багаты вадой". Красавіцкія рэчкі ператвараюцца ў мнагаводныя, шумлівыя рэкі. Касякі рыб выходзяць на заліўныя лугі. Шчупак, плотка, язь, акунь адкладваюць ікру на мелкаводдзі, якое добра праграваецца сонцам. Пакінулі свае зімовыя „кватэры" гадзюкі, вужы і яшчаркі. Зараз іх можна бачыць на паўднёвых схілах яроў і ўзгоркаў, дзе яны прымаюць сонечныя „ванны". У красавіку цяжка знайсці сажалку, возера або балота, дзе не было б жаб. Вечарамі наладжваюць яны вясеннія канцэрты.

Красавік — месяц птушак. Пасля доўгай восені і зімы з далёкіх падарожжаў вяртаюцца яны на радзіму, і для людзей гэта заўсёды радасць. Невялікімі чародамі ляцяць качкі, клінам — гусі, вялікімі цёмнымі хмарамі — берасцянкі і іншыя дробныя птушкі. Прыляцелі белыя буслы. З раніцы да позняга вечара і нават глыбокай ноччу чуваць несціханы птушыны гоман. Гнёзды ўсюды: у дуплах і на галінах дрэў, у хмызняках і на высокіх травяністых купінах, на амаль голай зямлі. У адным гняздзе 2, у другім 5—6 белых, шэрых або блакітных ці ў крапінку яек.

На лясных прасеках, узлесках і палянах у шэрым ранішнім змроку збіраюцца чародамі цецерукі. У перадранішняй цішыні за кіламетр і больш чуваць іх мармытанне. А ў гэты час у сасновым бары на невысокім пагорку побач з дрыгвяністым балотам пачалі такаваць глушцы.

Ружавее ўсход. Святлее. Паступова ажывае лес, прачынаюцца птушкі. На вачах усё мяняецца. Не за гарамі перадлецце — пераход вясны ў лета.

**А. КУРСКОЎ**

Беларускія гульні

# „ДОЖДЖ ІДЗЕ"

Чэрціць кругі — умоўныя хаты. Кругоў павінна быць на адзін менш, чым удзельнікаў гульні. Вядучы адводзіць сябоў далей ад кругоў. Затым ён нечакана крычыць: „Дождж ідзе!". Усе стрымгалоў кідаюцца да кругоў-хат, займаюць іх. Але з такой умовай: у кожным крузе — адзін чалавек. Той, каму не хопіць круга, становіцца вядучым.

# КАМАР ЛАЗНЮ ТАПІЎ

Камар лазню тапіў,
Муха парылася.

Прыпеў:

Дылі, дылі, го-ца-ца-ца.
Ой, дыль-дыль-дыль, го-ца-ца! *)

З палка звалілася,
Насмерць забілася.

Блыха добрай была,
Запрагае ката,

Едзе ў Мінск да аптэкі,
Каб купіць мусе лекі.

Прэ блыха на мышы,
Муха ўжо без душы.

Пакуль муху памылі,
Пук лучыны спалілі.

Пакуль муху прыбралі,
Певуны ўжо спявалі.

Зайцы яму капалі,
Лісы труну збівалі.

Совы муху няслі,
Ваўкі голас вялі.

У пясочку хавалі
І памінкі спраўлялі.

Вылі ўсе, галасілі,
Год жалобу насілі.

---------

*) *Прыпеў паўтараецца пасля кожнай страфы.*

[ ♩= 96 ]

Ка_мар лаз_ню та_піў, му_ха па_ры_ла_ся.

Ды_лі, ды_лі, го_ца_ца_ца. Ой,дыль-дыль-дыль го_ца_ца.

## Адказ на „падарожжа"

**З мухі — слана.**

*Воўк — воск — восы — косы — козы. Ліпа — лапа — ліра — ліса — ліха. Рака — рама — мама — мара — мора. Леў — лоў — лог — дог — дол — вол. Зіма — Ліма — Ліна — Лена — лета. Год — гад — лад — лак — лук — бук — бек — век. Дым — дом — док — бок — бак — бал — вал — вар. Рэчка — ручка — рубка — рыбка. Рыбка — рыска — раска — ранка — банка.*

**Непісьменная машынка.**

1) Ад прастуды лечацца мёдам. 2) Сын бацькам часта піша з арміі. 3) Паклажу ў горы павезлі на мулах. 4) Кот ганяўся за мышамі.

*Воўк — шоўк; лад — лаз — лак — лар; база — ваза — Газа* (горад) — *каза — лаза — фаза; бок — док — жок* (танец) — *кок — рок; дом — жом — ком — лом — ром — сом — том; кат — кіт — кут — кот — Кэт* (імя); *лаг — лог — луг — лёг; борт — корт — порт — сорт — торт — форт — хорт — чорт; маг — МАЗ — мак — мат — мах; байка — гайка — лайка — майка — райка* (яблыка) — *сайка — чайка — шайка; бук — гук — жук — Кук — лук — Мук — пук* (пучок) — *сук — тук — фук — хук* (спарт.) — *Чук; варта — карта — Марта — парта; бак — лак — гак* (лішак) — *мак — рак — сак* (адзенне); *балка — галка — Залка (Матэ*, венг. камуніст) — *Калка* (рэчка) — *палка — Талка* (рэчка); *гара — зара — кара — Лара — мара — нара — пара — Сара — тара — фара — Чара* (рака).

*ЯН ЧЫКВІН*

# ШТРЫХ ДА ТВОРЧАГА ПАРТРЭТА КАСТУСЯ АКУЛЫ

Кастусь Акула — амаль адзіны з жывых зараз прафесійных празаікаў сярод беларускай эміграцыі. Бо няма ўжо ў жывых Юркі Віцьбіча, Янкі Ліманоўскага, Язэпа Германовіча, Аўгена Калубовіча, Язэпа Малецкага. Праўда, піша ў жанры аповесці Масей Сяднёў, але ён жа перш знакаміты паэт і ягоная паэтычная творчасць ці не поўнасцю засланяе напісанае прозай (*Раман Корзюк*, Нью Ёрк — Мюнхэн 1985, *І той дзень надыйшоў* Глен Коў — Нью Ёрк 1987). Працуе над раманам, як мне вядома, і Міхась Кавыль, аднак ён таксама мае паэтычную біяграфію найперш. Ад каго ж тады яшчэ можна спадзявацца аповесці, рамана — ад Уладзіміра Сядуры, Алеся Яцэвіча, Міколы Панькова, Янкі Запрудніка, Антона Адамовіча, Рыгора Данілеўскага ці можа Янкі Юхнаўца? Пэўна найхутчэй, аднак жа, ад таго ж Кастуся Акулы.

Кастусь Акула гэта псеўданім пісьменніка. Яго праўдзівае прозвішча Аляксандр Качан. Нарадзіўся ён 4 снежня 1925 года ў Заходняй Беларусі, у маленькай, на трыццаць двароў, вёсцы Верацеі, у мнагалюднай сям'і, дзе было васьмёра дзяцей.

Аб гэтым раннім перыядзе свайго жыцця і першых гадах вучобы ў польскай школе повшэхнэй Кастусь Акула трохі апавядае ў сваёй кнізе *Усякая ўсячына* (Таронта 1984).

Потым пару месяцаў ён займаўся вучобай у беларускай гімназіі ў Вільні. Але паколькі гэта былі гады вайны, юнак вырашыў перайсці вучыцца ў Менскую школу афіцэраў Беларускай Краёвай Абароны. І вось разам з гэтай школай на пачатку 1944 года ён апынуўся ў Нямеччыне. У жніўні таго ж года кадэты гэтай беларускай школы перайшлі ў Францыі на бок французскіх Макісаў. І адтуль Аляксандр Качан, які годам раней пад псеўданімам Міхась Козыр пачаў ужо публікаваць у газетах свае вершы, трапіў у польскі корпус, што быў у складзе Брытанскай 8 арміі і ў Італіі змагаўся супраць немцаў.

У Італіі заспела яго і заканчэнне вайны. Пасля дэмабілізацыі Аляксандр, як бы наўздагон вайне, закончыў у Англіі афіцэрскую школу панцырнай зброі — і неўзабаве выехаў на пастаяннае жыхарства ў Канаду, у горад Таронта, дзе жыве і цяпер.

Такіх беларускіх вайскоўцаў, як Аляксандр Качан, было тады на заходніх франтах больш трыццаці тысяч. Як колішнія па пашпарту грамадзяне Польшчы амаль усе яны ў канчатковым выніку знайшліся пад брытанскай камандай і разам з іншымі саюзнікамі памагалі знішчаць гітлераўскую Нямеччыну.

Варта адзначыць, што Першая сусветная сустрэча беларусаў-ветэранаў заходніх франтоў адбылася ў Манчэстэры ў 1974 годзе. Ад таго часу выходзіць і ветэранскі часопіс „Зважай". Галоўным рэдактарам яго ад пачатку заснавання з'яўляецца Кастусь Акула.

Як вядома, у свой час у былым Савецкім Саюзе, а найбольш хіба ў Беларусі, праводзілася грунтоўнае і свядомае знішчэнне інтэлігенцыі. Масавыя расстрэлы, ссылка ў Сібір і нарэшце Другая вайна дапоўнілі драму ці аднаго нашага народа. Панарамна вобразна і па-мастацку сугестыўна апісвае той час пагібелі менскіх пісьменнікаў, паэтаў, вучоных, студэнтаў у сваіх раманах Масей Сяднёў. Ён, як і Кастусь Акула, з'яўляюцца прадстаўнікамі так званага загінуўшага беларускага пакалення.

Запланаваная зверху тая біялагічная чыстка цвету народа не пакінула з боку і беларускае сялянства. Кастусь Акула ў сваіх аповесцях *Дзярлівая птушка* (Таронта 1965), *Закрываўленае сонца* (Таронта 1974), *Беларусы, вас чакае зямля* (Таронта 1981) засяроджваецца іменна на адлюстраванні жыцця вёскі Заходняй Беларусі ў трагічных для яе дваццатых ды трыццатых гадах.

Тры гэтыя аповесці Кастуся Акулы маюць агульны назоў: *Гараватка* — ад слова гараваць, напрацавацца цяжка не меўшы карыснага выніку, жыць у горы. Значэнне гэтай назвы раскрывае ў першай кнізе дзед Якуб. Ён снуе перад пастушком, Януком Бахмачом, легенду пра князя Гаравіка і яго трох сыноў ды як яны землі свае абжывалі. „Папагараваў князь Гаравік, — чытаем у аповесці, — пакуль замак збудавалі ды гаспадарку на парадак навёў. Можа ад таго й пачалі людзі гэта места Гараваткай называць".

Для чытача, аднак, ясна, што дзед апавядае ў даступнай для вясковага дзецюка прыхарошанай форме скарочаную гісторыю свайго народа. Гараватка — гэта і ёсць новае мастацкае найменаванне Беларусі.

У першай кнізе трылогіі *Дзярлівая птушка* над часткай гэтай Беларусі-Гараваткі пануе польская адміністрацыя. Героі кнігі ўспамінаюць яе як уладу акупацыйную. У другой кнізе *Закрываўленае сонца* Гараватка пераходзіць у рукі новых акупантаў, расейцаў.

Пісьменнік на прыкладзе лёсу сям'і Пракопа Бахмача, драмы іхняга жыцця і таксама бяздольнага жыцця суседзяў, аднавяскоўцаў паказвае, што пад акупантам адным жылося дрэнь, а пад другім — і таго горш! З любоўю апісвае гэты родны, асвоены да апошняй дробязі, замкнёны свет, далёкі ад шырокіх гасцінцаў і вялікай палітыкі, які — аднак — развальваецца, стаецца варожы, таму што па ім гойсаюць чужынцы — нішчаць, спусташаюць не толькі матэрыяльна, але і душы чалавечыя, гвалтуюць, насычаюць сваёй ідэалогіяй, ад якой вельмі хутка дэмаралізуюцца людзі вёскі. Акулавай Гараваткі. Нашай Беларусі.

# КНІЖКА—НАЙЛЕПШЫ СЯБАР ЖЫЦЦЯ

Публічная бібліятэка ў Рыбалах існуе з 1953 года. Зараз з'яўляецца філіялам Гмінnай бібліятэкі ў Заблудаве. Сёння налічае яна 11 тысяч кніжак.

У бібліятэцы працуе спадарыня Ніна Тамашук.

— Ужо 24 гады, як я працую з кніжкамі. Памятаю часы, калі заснавалі тут бібліятэку. На пачатку было толькі 210 кніжак. Тады не было яшчэ ў нас тэлебачання. Можа таму людзі гарнуліся да кніжак. Памятаю, што збіраліся кавалеркаі і чыталі. Цяпер моладзь не тая. Няма такой радасці як калісь, — расказвае спадарыня Ніна.

У вясковых бібліятэках кніжкі хутка нішчацца. Таксама здараюцца пакражы.

— У Рыбалах, — кажа бібліятэкарка, найбольш гінула кніжак у чытачоў з „Камбіната". Былі там такія, што пазычалі кніжкі, трымалі па 2 гады, а калі выязджалі з Рыбалаў, то і кніжкі з сабой вывозілі.

Але бываюць і добрыя ўспаміны. 8 сакавіка спадарыню Ніну наведаў чытач родам з Рэпнік. Хлопец ехаў з Беластока. Спадарыню Ніну шануе, бо паводле яго, памагла яму знайсці найлепшага сябру жыцця — кніжку. Цяпер заўсёды сваёй першай бібліятэкарцы прывозіць кветкі.

Бібліятэкай карыстаецца звыш 200 чытачоў. Пераважаюць школьнікі. Таксама дарослыя жыхары заходзяць пачытаць прэсу і кніжкі.

— Жанчыны найбольш чытаюць любоўныя раманы. Здараецца, што адна пазычае, а кніжку чытаюць яшчэ пяць сяброўак. Таму цяжка вызначыць сапраўдную колькасць чытачоў, — кажа бібліятэкарка.

У бібліятэцы няма сучасных беларускіх кніжак. Бібліятэкарка прызнаецца, што пра такія кнігі ніхто тут не пытаецца.

— „Ніва" ёсць і яе чытаюць, — кажа спадарыня Ніна Тамашук.

**Г. КАНДРАЦЮК**
**Фота аўтара**



*Бібліятэкарка Ніна Тамашук.*

# КАВА „Tchibo" і БЕЛАРУСЫ

Па ініцыятыве рэдактар Анны Сабэцкай на Радыё Гданьск у праграме „Студыя-5" 23 лютага пачаўся цыкл перадач, прысвечаных нацыянальным меншасцям. Паколькі спадарыня Анна родам з Сакольшчыны (з вёскі Масіха) і вядомая як перакладчыца беларускай літаратуры на польскую мову, пачала яна з папулярызацыі беларусаў. У прамым эфіры на працягу гадзіны слухачы маглі пачуць аб жыцці беларусаў у Польшчы. Размова адносілася да пытанняў культурнага жыцця, школьніцтва, выдавецкай справы і арганізацыяў. Была таксама закранута праблема фінансаў і аднасінаў улад да беларускай дзейнасці. Усе гэтыя праблемы былі таксама аднесены да існавання беларусаў у Гданьскім ваяводстве. Размова перарывалася рэкламамі, якія абавязкова тэрмінова трэба было пускаць у эфір. Усё ж такі добра, калі мы рэкламаваліся па радыё за дарма і побач з так папулярным таварам, як кава „Tchibo", да якой музычнай ілюстрацыяй была народная песня „Ой ляцелі гусі" ў выкананні гданьскага калектыву „Жаваранкі". Першая наша прысутнасць на Гданьскім радыё нарадзіла надзею на беларускія перадачы. Можа калі-небудзь і дачакаем іх.

**ЛЕНА ГЛАГОЎСКАЯ**

# БЕЛАРУСЬ НА ЎРОКАХ ГЕАГРАФІІ

У сельскай гаспадарцы Беларусі выкарыстоўваецца 50% усёй зямельнай плошчы. Астатнюю тэрыторыю займаюць лясы, балоты, рэкі, азёры, пабудовы, дарогі і г.д. Амаль 2/3 усіх зямель, якія выкарыстоўваюцца ў сельскай гаспадарцы (30% тэрыторыі краіны), адведзена на раллю, астатняя частка — лугі і паша.

Асобныя часткі Беларусі адрозніваюцца рознай ступенню сельскагаспадарчага асваення. Лепш за ўсё асвоены раёны цэнтральнай часткі краіны, якія маюць высокую шчыльнасць насельніцтва і ўрадлівыя глебы. Ралля займае тут месцамі да 50% усёй тэрыторыі. Слабей за ўсё разараны паўднёвыя, палескія раёны, дзе ралля займае часам толькі 8—10% тэрыторыі.

У земляробстве важнае значэнне маюць збожжавыя і зернебабовыя культуры — жыта, пшаніца, ячмень, авёс, гарох, грэчка, кукуруза. Найбольшае распаўсюджанне сярод збожжавых мае жыта. Пад яго пасевамі занята каля 1/8 усіх пасяўных плошчаў.

Асабліва вялікае значэнне належыцца ў Беларусі бульбе. Яна вырошчваецца ўсюды і дае высокія ўраджаі. Выкарыстоўваюць бульбу як харчовую, кармавую і тэхнічную культуру. Пад бульбай занята ў Беларусі каля 1/6 пасяўных плошчаў.

Галоўная тэхнічная культура Беларусі — лён. Па яго вытворчасці і ўраджайнасці Беларусь займае адно з першых месц у свеце, на яе долю выпадае каля 10% сусветнай вытворчасці льновалакна. Важнай тэхнічнай і кармавой культурай Беларусі становяцца цукровыя буракі.

Вырошчваюцца і гароднінныя культуры — капуста, морква, агуркі, памідоры, цыбуля, радыска і інш. Больш за ўсё гародніну вырошчваюць у прыгарадскіх калгасах і саўгасах.

У жывёлагадоўлі вядучае месца займае развядзенне рагатай жывёлы пераважна малочных і малочна-мясных парод. Пагалоўе жывёлы сягае ліку 2,5 мільёна штук (у Польшчы — 8,8 млн. штук). Развіваецца ў рэспубліцы свінагадоўля і птушкагадоўля. Ва ўсіх абласцях пабудаваны вялікія жывёлагадоўчыя комплексы і птушкафермы. Жывёлагадоўчая сыравіна перапрацоўваецца на прадпрыемствах мясной і малочнай прамысловасці.

Немалое значэнне маюць таксама рыбная гаспадарка і пчалярства.

Сельская гаспадарка дае 19% нацыянальнага даходу і працу для 1/4 насельніцтва краіны. Для павышэння эфектыўнасці сельскагаспадарчай вытворчасці патрабуецца больш машын, арганічных і мінеральных угнаенняў, лепшага падбору сельскагаспадарчых культур.

Асноўныя вытворцы сельскагаспадарчай прадукцыі — калгасы і саўгасы. Індустрыяльнае развіццё Беларусі, адток маладых сельскіх жыхароў у гарады ды калектывізацыя беларускай вёскі давялі да скарачэння ліку вясковага насельніцтва, змен у пасяленчай сетцы, абязлюдзення многіх раёнаў, асабліва на ўсходзе рэспублікі (тут якраз калектывізацыю праведзена найраней — у дваццатыя і трыццатыя гады). Ёсць аднак нямала калгасаў і саўгасаў з усімі камунальнымі выгодамі і культурна-бытавымі ўстановамі.

Недахоп на вёсцы працоўных рэсурсаў, некарысныя дэмаграфічныя тэндэнцыі і неспрыяльныя сацыяльна-эканамічныя ўмовы апошняга часу з'яўляюцца сёння галоўнымі бар'ерамі ў мадэрнізацыі сельскай гаспадаркі і ў пераўтварэннях у праве ўласнасці на зямлю. Пэўную аднак папулярнасць, нягледзячы на рызыку, здабывае ўжо цяпер гаспадарка фермерскага тыпу.

**Ю. БАЕНА**



## ДА АРТЫКУЛА „БЕЛАРУС — КАТОЛІК ЦІ ПАЛЯК?"

У 11 нумары „Нівы" ад 13 сакавіка 1994 г. з'явіўся артыкул „Беларус — католік ці паляк?" Усе мы ведаем, як цяжка і марудна адраджаецца нацыянальная свядомасць у Беларусі. Датычыць гэта таксама і Праваслаўнай Царквы. Аднак, нельга згадзіцца са сцвярджэннем аўтара К. Б., які ў канцы свайго артыкула піша, што Праваслаўе русіфікуе беларускі народ. Думаю, што гэтае сцвярджэнне было выказана аўтарам надта неразважліва. Хрысціянскія карані беларускага народа ўжо тысячу гадоў звязаны з Праваслаўем. Параўноўваць у гэтым кантэксце ролю Праваслаўя з дзейнасцю Каталіцкага Касцёла нельга. Лічу, што дзейнасць каталіцкіх ксяндзоў, асабліва на Гродзеншчыне, пагражае той сітуацыяй, якая склалася на Сакольшчыне і Дуброўшчыне. Акаталічаныя ў мінулым беларусы, якія карыстаюцца самай чыстай беларускай мовай на Беласточчыне, лічаць сябе палякамі, а беларусамі называюць толькі праваслаўных. У гэтым выпадку адвярнуць рэчаіснасць немагчыма. Напэўна такая небяспека не пагражае з боку Праваслаўя, якое з'яўляецца карэннай верай беларусаў. У мінулым, сапраўды, бывала па-рознаму, аднак, не аглядаймася надта часта назад і не абагульняйма, тым больш, што ў апошніх гадах пачаўся працэс адраджэння нацыянальнай свядомасці ў Праваслаўнай Царкве ў Беларусі.

У Жыровіцкай духоўнай семінарыі навука вядзецца таксама і на беларускай мове, выпускаюцца таксама праваслаўныя выданні на нацыянальнай мове. Сапраўды, гэты працэс не ідзе ў такіх тэмпах, як хацелі б гэтага многія людзі, у тым ліку розныя палітычныя дзеячы. Але некаторыя справы нельга пераскочыць. Гэта працэс, які доўжыцца нейкі час. Не кожны, хто карыстаецца рускай мовай, адчувае сябе расейцам. Часта такая асоба не ведае беларускай мовы, бо не дадзена ёй было вывучаць родную мову (немалая ў гэтым заслуга і камуністычных урадаў з перыяду былога СССР).

У мінулым годзе выйшаў першы „Беларускі Праваслаўны каляндар на 1994 г.", выдадзены Брацтвам Трох Віленскіх Мучанікаў у Менску. Апрача каляндарнай часткі змешчаны ў ім катэхізіс і раздзел аб беларускіх святынях, усё на беларускай мове. У прадмове чытаем:

*У ідэі гэтага выдання адбіваюцца асноўныя мэты Беларускага Праваслаўнага Брацтва Трох Віленскіх Мучанікаў: лучыць у сваёй дзейнасці беларускую нацыянальную традыцыйную своеасаблівасць і дабрадатную ды жыццятворчую праўду Праваслаўнай веры. Мы лічым, што ўмацаванне і развіццё Праваслаўнай Царквы на Беларусі гэта не толькі аднаўленне храмаў і манастыроў, але, і, перадусім, рэлігійнае адраджэнне нашага маральнага ідэала, які ляжыць у грунце асобы, сям'і і грамадства. (...)*

*І, магчыма, дзякуючы гэтаму выданню хто-небудзь спасцігне вельмі простую ісціну: што ўсе, хто атрымаў хрышчэнне ў Праваслаўнай Царкве, і ёсць гэтая Царква, і таму без нашага асабістага духоўнага абнаўлення, без подзвігу веры, не наступіць духоўнага адраджэння народа, і нашае Бацькаўшчыны.*

Нацыянальная свядомасць можа адрадзіцца толькі з адраджэннем і замацаваннем Праваслаўя. Ад самога пачатку гісторыі Беларусі праваслаўная вера была неразрыўна звязаная з ёю.

Восенню мінулага года была створана Злучнасць Праваслаўных Брацтваў Беларусі, у саставе якой знаходзіцца цяпер 14 брацтваў. У лютым гэтага года ў Менску прайшла сустрэча прадстаўнікоў праваслаўных брацтваў і моладзі з епархіяй Беларусі. Гэта менавіта людзі з брацтваў — духоўныя і моладзь — з'яўляюцца, між іншым, ініцыятарамі розных мерапрыемстваў, якія садзейнічаюць адраджэнню нацыянальнай свядомасці. Гэта яны выпусцілі згаданы каляндар, арганізавалі ў мінулым годзе пешае паломніцтва з Гродна ў Жыровічы на святкаванне Успення Прасвятой Багародзіцы як адраджэнне старадаўняй традыцыі (змяшчала яно і нацыянальныя элементы), друкуюць розныя брашуры і іншыя выданні.

Сустрэча ў Менску закончылася праспяваннем „Магутны Божа, благаславі наш Род" падчас канцэрта брацкіх хораў. Некалькі гадоў таму ніхто не пасмеў бы і падумаць аб гэтым. Прыведзеныя прыклады сведчаць аб гэтым, што ў маладым пакаленні (і не толькі), у Праваслаўнай Царкве ў Беларусі ёсць людзі, якія зацікаўленыя ў адраджэнні сваёй Айчыны, і якія адначасна ведаюць, што паўната гэтага адраджэння можа здзейсніцца толькі цераз Праваслаўе.

**МІКАЛАЙ СЕМАКОВІЧ**

## ДЗЯДЗЬКА ЗАХАР ДАЕ АДКАЗЫ

Прачытаўшы нататкy Дзядзькі Захара „Жырыноўскі дае адказы" („Ніва" н-р 10 ад 7 сакавіка), я задумаўся: як многа ёсць людзей, якія ідэалізуюць бальшавіцкую эпоху коштам сённяшняга дня!

Дзядзька Захар наракае: „Адкідаем усё, што ўсходам пахне". Гляньма ж тады, што дзеецца на гэтым усходзе: у Расеі і ў Беларусі бальшавікі надалей правяць, падзяліўшы аграмадную краіну паміж мафіі і банды. Бо трэба ведаць, што калі выпусціць аднаразова на свабоду ўсіх турэмшчыкаў, будзе тады вялікі хаос. Савецкі Саюз быў аграмаднай турмой, якую цяпер адкрылі. А калгасы, саўгасы, як былі, так і асталіся.

У іншым месцы Дзядзька Захар піша: „Прэмся на захад, а там нас не хочуць". Бо ж і ў нас таксама надалей правяць тыя самыя людзі, што і раней. Сумняваюся, ці патрэбныя мы на захадзе з такімі парадкамі.

Далей Дзядзька Захар піша, што няма каго любіць, бо выкінулі Сталіна, Леніна і Дзяржынскага, а на іх месцы паставілі Гітлера. Бальшавікі з нецярплівасцю чакаюць свайго любімца — другога Сталіна і толькі ў Жырыноўскім яго бачаць.

Накaнец Дзядзька Захар супрацьстаўляе сёлетнюю, сумную, навагоднюю ёлку ў Гародні той радаснай і вясёлай, якая была пры Брэжневе. У сувязі з гэтым прыпомнілася мне апавяданне, якое чыталі мы ў школе: на Новы год у Сакольнікі каля Масквы адна школа запрасіла „вялікага Леніна" да сябе ў госці, на ёлку. Ленін прыехаў са сваёй світай у гэтую школу і ўсе гулялі і танцавалі. А Расія была галодная. І так на працягу 70-ці гадоў савецкі народ гуляў і танцаваў. Трэба аднак сказаць, што рускія людзі, хаця яны былі і бедныя, і пакрыўджаныя, былі душэўна багатыя. Ці хто з'яўляўся да іх у бядзе, ці прыязджаў у госці, яны прымалі яго як роднага: кармілі і абагравалі. На захадзе багатыя людзі не пусцяць у свой дом нават роднага брата, калі той бедны.

**МІКАЛАЙ ПАНФІЛЮК**

## УСПАМІНЫ ЎКРАІНКІ

Вельмі добра, што Дзмітрый Шатыловіч піша пра сваё жыццё падчас прымусовых работаў у немцаў. Яшчэ жывуць людзі, якія падобнае перажывалі, толькі не хочуць ці не ўмеюць пра гэта напісаць.

Я пачула такі вось расказ незнаёмай жанчыны, якая паходзіла з Украіны:

„Калі пачалася вайна, я была ў апошнім класе медыцынскай школы. Быў тады якраз выпускны вечар, танцы. Я выйшла з сябрам са школы, хацелі пашпацыраваць апошні раз па школьным двары. Не паспелі мы дайсці да канца падворка, як прыехалі вайскоўцы. Адкуль нам было ведаць, што вайна ўжо пачалася і колькі бяды яна нам прынясе!

Мы павярнулі назад. Музыка сціхла. Вайсковец старэйшы рангам аб'явіў, што мы ўсе павінны ісці на фронт. Не далі нам нават часу развітацца з бацькамі.

Усе хлынулі да машын. Я спалохалася — не хацела ісці на смерць! Рашылася ўцякаць, і гэта мне ўдалося.

Два тыдні не выходзіла з дому, хавалася. Калі прыйшлі фашысты, выходзіла ўжо на двор. Хутка мяне вывезлі на прымусовыя работы ў Германію.

Баўэрка была вельмі нядобрай жанчынай. Калі я мела што есці сваё, было яшчэ добра, але потым магла з голаду памерці. Раніцай гаспадыня давала маленькую скібачку хлеба, злёгку пацягнутую маргарынам, на абед рэдзенькі суп з бручкі, на вячэру кубак збожжавай кавы. Паспрабуй, папрацуй пры такой страве! Пачала я піць крадзеныя сырыя яйкі, гэтым і ўратавалася. Раз у месяц давала я гусцы гарачай варанай бульбы. Гуска сінела, гаспадыня думала, што тая хворая, і аддавала птушку мне. „Бач ты, — казала потым суседцы, — гэтых рускіх свінней нічога не бярэ!"

Брат маёй баўэркі быў добрым чалавекам, даваў нам, нявольнікам, крадком паесці. Дзякуючы яму і нашай хітрасці ўдалося нам дачакаць вызвалення.

Калі надыходзіла савецкае войска, немцы пакідалі сваю маёмасць і рушылі на захад. Брат нашай баўэркі не адчуваў віны перад намі і не ўцякаў. Гэта і згубіла яго сям'ю. Вязні з лагераў, што вырваліся ад здзекаў эсэсаўцаў, адпомсцілі нявіннаму чалавеку — яго і ягоную жонку павесілі, а дзетак пасяклі на кавалкі! Як мне пра гэта людзі расказалі, не магла я зразумець, чаму Бог дапусціў такую несправядлівасць! Тыя, што мучылі іншых — перажылі, а тыя, што дапамагалі выжыць зняволеным, загінулі, па-зверску замучаныя! Я аб сваіх перажываннях апавядала бабулі, а яна так сказала: „Як Хрыстос быў несправядліва асуджаны і забіты, так ёсць і з людзьмі."

Я тады засталася адна. Наварыла, напякла рознага, добра пад'ела, узяла паесці на дарогу і пайшла на ўсход. Па дарозе спаткала такіх як і я дзяўчат і хлопцаў, што вярталіся з няволі дадому. Сярод іх быў і Міша. Не пайшла я ўжо на Украіну, засталася з Мішам у яго вёсцы. Ніколі не працавала медсястрой. І ўсё жыццё шкадую, што не пайшла тады на фронт, ваяваць з ворагам у першых радах".

**Запісала АЎРОРА**

**ДЗМІТРЫЙ ШАТЫЛОВІЧ**

## НА РАЦЭ Ў ВАРАНАСІ [1)]

Плыву на доўгай лодцы ўздоўж шырокай Гангі,
За мною сонца шар падняўся над зямлёй,
І горад прада мною пад колер сочнай мангі
Расцягнуты блішчыць усходняю красой.

Ступенькамі зыходзяць сотні белых готаў [2)]
У шэрую ваду з натоўпамі людзей.
Каплічкі над ракой бліскаюць пазалотай —
Здаецца, і яны купаюцца ў вадзе.

Я бачу прад сабой малы храм бога Шывы, [3)]
Падмыты ўвесь вадой, схіліўся ўжо набок.
Пусты цяпер стаіць, як купал над абрывам,
І нават грозны бог з яго зусім уцёк.

Ён мае другі храм, святыню залатую, [4)]
У горадзе яна стаіць паміж дамоў.
Між залатых аздоб ён горда трыумфуе,
Глядзіць на пілігрымаў і летам, і зімой.

Далей храм Ганумана [5)] узняўся над ракою,
І ўнізе ўсіх нас вабіць сарамі [6)] жанчын,
Іх колеры вясёлкай зззяюць над вадою,
Кішаць, як мошак роі у сетках павуцін.

Вось гот багаты джэйнаў [7)] у абдымках хвалі,
Тут голыя мужчыны валтузяцца гурбой,
А готы магараджаў, як Калі ці Шывалая,
Пустыя, як сіроты, хмурацца імглой.

Далей над готам бачым дымавыя слупы,
Там свецяць іскры, бы кветкі-аганькі,
Дымы плывуць з кастроў, дзе спальваюцца трупы,
А попел іх кідаюць у ахоп ракі.

Бо той, хто тут памрэ, той знойдзе стан нірваны [8)]
Не будзе нараджацца больш яго душа,
Яна не будзе мець ні прагі, ні жаданняў,
Ніхто яе не будзе да жыцця змушаць.

Таму індусы часта тут чакаюць смерці,
Таму кідаюць дзеці тут сваіх бацькоў
І сотні пілігрымаў хочуць тут памерці,
Купляючы кастры пры готах над ракой.

---

1) **Варанасі** — ранейшая назва Бенарэс, горад (600 тыс. жыхароў) святы для індусаў, джэйнаў і будыстаў. Яны вераць, што той чалавек, якога цела будзе тут спалена, не будзе больш увасабляцца ў іншую істоту.

2) **гот** (ghat) — уваход ступенькамі ў Гангу; прыстанішча на рацэ.

3) **Шыва** — трэці бог з тройцы галоўных індускіх багоў (Брахма, Вішну, Шыва) — бог разбурэння свету; малююць яго з трэцім вертыкальным вокам паміж вачамі і з нашыйным упрыгожаннем з чалавечых чэрапаў; у руках трымае лук, бубен і трызуб.

4) **Залатая святыня** Шывы з тонаю золата на аздобах.

5) **Гануман** — бог малпаў, прыяцель Рамы. Твар яго падобны да малпінага.

6) **сара** — адзенне індусак з 5 метраў каляровага тэкстыльнага матэрыялу, якім яны абвіваюцца.

7) **джэйны** — рэлігія ў Індыі.

8) **нірвана** — стан душы, якая ўжо не будзе ўвасабляцца.

# МАЯ НАТАЛЛЯ АРСЕННЕВА

## Частка VIII

Па прапанове ўдзельнікаў настаўніцкай канферэнцыі ў Бельску-Падляшскім падрыхтаваў я пасланне выдатнай паэтэсе з наступным зместам:

„Шаноўная, Дарагая Юбілярка!

Мы, настаўнікі беларускай мовы ва ўсходняй Беласточчыне, з радасцю вітаем слаўны юбілей, звязаны з дзевяностым годам Вашага жыцця. Пачынаючы ад 1921 года, на працягу болей чымсьці сямідзесяці гадоў, Вы паслядоўна і ўпарта прадаўжалі тварыць і сеяць на высакароднай ніве беларускай паэзіі.

Парасткі Вашых вершаў, кветкі Вашых вершаў, каласкі Вашых вершаў, хлябы Вашых вершаў узбагачвалі і ўпрыгожвалі беларускі літаратурны палетак, беларускія сэрцы і беларускі святочны стол.

Ваша паэзія ў канцы канцоў перамагла ўсе межы, наказы ды забароны і дайшла да беларускіх сэрцаў усюды на свеце, у тым на Беласточчыну і ў Рэспубліку Беларусь.

Шчырая, прыгожая і высакародная, заўсёды пераможная.

Лёс Вашых вершаў сведчыць аб гэтым найбольш пераканаўча. Мы, настаўнікі беларускай мовы і літаратуры Беласточчыны, пастараемся давесці праўду Вашага жыцця і праўду Вашых вершаў да сэрцаў і розумаў беларускіх дзяцей і беларускай моладзі ў Польшчы.

Жывіце доўга і тварыце на славу беларускай нацыі. Ведайце, што на Вашы вершы чакаюць удзячныя беларусы ўсяго свету.

Ваша паэзія — гэта адлюстраванне горкага беларускага лёсу і салодкай беларускай надзеі.

Слава Наталлі Арсеневай!"

Тэкст паслання быў прыняты настаўнікамі аднагалосна. Хочацца верыць, што будзе ён інспіраваць далейшую творчасць нашай выдатнай паэткі.

Заканчваючы свае рэмінісцэнцыі, звязаныя з асобай Наталлі Арсеневай, прагну звярнуць увагу на яшчэ адзін момант. Хочацца мне надаць жыццю і паставе паэткі пэўны актуальны сэнс. Прагну звярнуцца да тых палітычных і культурных дзеячоў Рэспублікі Беларусь, якія сёння кіруюць краінай. Дзеячы гэтыя ў аграмаднай большасці з'яўляюцца дочкамі і сынамі беларускай нацыі і нягледзячы на гэта, аніяк не могуць перайсці на беларускую мову ў дзяржаўным і прыватным жыцці. Хочацца мне крыкнуць: Людзі! Апамятайцеся! Вазьміце прыклад з Наталлі Арсеневай. Яна — карэнная руская, выхаваная ў сям'і рускага чыноўніка — пачала вучыцца ў беларускай гімназіі ў 1920 годзе, а ў 1921 годзе ўжо апублікавала першы беларускі верш. Пяць гадоў пазней склала ў выдавецтва вялікі зборнік сваёй беларускай паэзіі „Пад сінім небам".

Толькі падумайце! Калі руская дзяўчына была ў змозе на працягу некалькіх гадоў настолькі вывучыць беларускую мову, што пачала на гэтай мове ствараць паэзію, дык чаму вы, карэнныя беларусы, на чацвёртым годзе незалежнасці Беларусі ўсё яшчэ карыстаецеся чужой мовай? Чаму? Ці гэта азначае, што знаходзіцеся на прымітыўным разумовым узроўні? Думаю, што яно не так. Вы проста не ўспрымаеце ані розумам, ані сэрцам істоты тых перамен, якія агортваюць сёння вызваленыя ад нацыянальнага прыгнёту народы!

Надышоў час вялікага разліку. Прыступіце да яго. Прыгадайце Францішка Скарыну, Кастуся Каліноўскага, Казіміра Сваяка і... Наталлю Арсеневу. Вядома, што ўсім ім было цяжка. Аднак усе яны знайшлі духоўную сілу для таго, каб перабудавацца, вызваліцца ад дамінанты мацнейшага і стаць на баку Справядлівасці і Высакароднасці. Зрабіце гэта сёння, бо заўтра будзе позна!

А Вам, мая Наталля Арсенева, дзякую за зборнік „Пад сінім небам". Я ў вашых кнігах знаходзіў і знаходжу многа таго цяпла, якое дазваляе ўзнікаць, расці і расцвітаць таксама маім скромным вершам.

Ведайце, што Вы належыце сёння не толькі беларускай эміграцыі і ўсяму беларускаму народу, але і асабіста мне. Вы — мая ўласнасць і ніхто Вас у мяне не забярэ. Дзякую Вам, мая Наталля Арсенева.

Ваш **АЛЕСЬ БАРСКІ**

*ДЗМІТРЫЙ ШАТЫЛОВІЧ*

# ПАСЛЯ ВЫЗВАЛЕННЯ

## 7 лютага 1945 г.

Прачнуліся мы позна, калі на дварэ было ўжо ясна. Першым з ложка сарваўся Пэтэр і пайшоў на кухню рыхтаваць сняданак.

— Што гэтыя п'яныя салдаты зрабілі з нашымі дзяўчатамі? — сумаваў Валянцін. — Як мне іх шкада! Дзе яны начавалі? Лідка хаця паехала з афіцэрам, а тых затрымалі п'яныя салдаты.

Сапраўды, сэрца сціскалася ад жалю на думку аб лёсе нашых сябровак. У Пэтэра атрымалася смачнае сняданне, паколькі ў кухонным буфеце прадуктаў было ўдосталь.

Паснедаўшы, падаліся мы ў далейшую вандроўку. Па абодвух баках вузкай шашы ляжалі перакуленыя вазы, а з парваных пярынаў вецер разносіў, быццам снег, белы пух. Ля аднаго воза ляжалі трупы мужчыны без галавы і дзвюх жанчын. Ніхто не збіраў забітых. Добра, што трымаў мароз.

Нас нагналі чатыры мужчыны. Усе, аказалася, беларусы з вёсак між Кляшчэлямі і Бельскам-Падляшскім. Сярод іх быў хлопец, з якім мы пазнаёміліся на акопах пад Растэнбургам. Там яго немцы падстрэлілі і забралі з нашай групы.

— Як тваё здароўе? — запытаў я.

— Цяпер я ўжо здаровы. Але тады я больш месяца праляжаў у бальніцы, а пасля адаслалі мяне да баўэра пад Гайльсберг і там я дачакаўся вызвалення, — адказаў ён.

Мужчын хвалявала трагічнае здарэнне, якога былі сведкамі. Разам з імі ішоў украінец Коля. Недзе з паўгадзіны таму сустрэла іх вайсковая машына. Сяржант стаў іх распытваць, адкуль яны родам. Даведаўшыся, што Коля паходзіць з вёскі з-пад Вінніцы, ён без слова застрэліў украінца і ад'ехаў на машыне. Хлопцы шкадавалі Колю, ведалі яго як добрага сябру.

У такім жудасным настроі дайшлі мы ў Зэебург. Перад горадам шаша перагароджана была шлагбаўмам. Вартавы запытаў нас: „Вы кто такие?" Паслухаўшы нашы тлумачэнні, ён сказаў: „Домой не пойдёте! Здесь находится сборный пункт для таких, как вы. Вас здесь проверят, а после, возможно, что отправят домой". Іншы салдат завёў нас у размеркавальны пункт. Мы з Валянцінам папалі ў невялікі дом, астатніх павялі ў іншыя. У „нашым" доміку жылі афіцэры. Нас пасялілі ў невялікім пакойчыку з двума ложкамі і зараз жа загадалі нам памыць падлогі і навесці парадак у чатырох афіцэрскіх пакоях. Малады лейтэнант глядзеў за намі і дакараў: „Плохо вас немцы научили работать! Здесь должно всё блестеть!" Потым загадаў ён мне прынесці вады са студні, якая знаходзілася ў 50 метрах ад дома. Ля помпы сустрэў я Аляксея з акопаў. З кім, як з кім, але з ім я не жадаў тут спаткацца. Тады, калі везлі нас цягнікам на акопы з Гайльсберга ў напрамку Бартэнштайна, у гэтым самым купэ са мной, Валянцінам і Пэтэрам ехалі савецкія палонныя. Яны вельмі наракалі на немцаў і ўсхвалялі саветаў. Я тады сказаў ім наперакор, што хаця немцы і ворагі, аднак з увагі на эканамічны ўзровень Германія намнога перавышае Савецкі Саюз. „Гляньце, — гаварыў я ім, — фронт ужо недалёка, але ніхто не памірае з голаду. А ў калгасах людзі жывуць горш, чым тут". У гэтай групе быў і Аляксей. Савецкія палонныя абурaліся, а я тлумачыў, што савецкія салдаты, якія прыйшлі да нас у 1939 годзе, расказвалі аб голадзе ў калгасах у мірны час. Праспяваў я ім і частушку:

*У колхоз дорога проста,*
*А с колхоза — косяком.*
*У колхоз идёшь обутым,*
*А с колхоза — босиком.*

Гэта іх вельмі раз'юшыла. Стаў я нават шкадаваць, што завёў з імі такую гутарку. З Аляксеем мы доўга былі разам і хаця гутарылі між сабою, то, аднак з яго боку адчуваліся ні то недавер, ні то варожасць.

Цяпер ён заўважыў маю збянтэжанасць нечаканай сустрэчай і прамовіў: „Не бойся, я никому не скажу, что ты выступал против колхозов. Всё-таки ты не изменщик". Аляксей працаваў перакладчыкам нямецкай мовы ў маёра.

Вярнуўся я з вадой і нам дазволілі пайсці спаць. Ужо ў сваім пакойчыку расказаў я Валіку аб сустрэчы з Аляксеем, аб маім страху і яго абяцанні.

— Ці можна яму верыць? — трывожна засумняваўся Валянцін.

— Ну, пабачым, што будзе заўтра, — адказаў я і лёг спаць, не ведаючы што прынясе нам чарговы дзень.

# ПРА ЧАЛАВЕКА, ЯКІ ХАЦЕЎ АДДАЦЬ СВАЁ ЖЫЦЦЁ

Едзем мы ў падвячорак аднаго з апошніх бела-снежных зімовых дзён машынай, якая плаўна і хутка прамільгае сярод сцішаных вёсак Нараўчанскай гміны. „Які цудоўны краявід! Ведаю ж гэтыя мясціны з дзяцінства, а тут нейкае ўсё іншае, быццам прыгажэйшае... Можа, таму, што едзем з іншага боку?", — здзіўляюся я.

Едзем мы цераз пушчу ад Крыніцы — адзінае „падляшскае" вёскі ў гэтай гміне. Якраз трапілі ў Ахрымы. Сонца, ужо нізкае, усё свеціць асляпляльна, адбіваецца ад снегу, а будынкі далёкага Ляўкова віднеюць як цацачныя домікі. Гэта ёсць той цудоўны для прыроды час, калі збірае яна моц скінуць снегавую пялюшку і набрыняць сокамі вясны, але для людзей бывае ён сумным; якраз у такі светлы дзень аддалі замерзлай зямельцы маленькую Марту...

— Што гэта за дом? — звяртаюся я да Алеся. — Такі вялікі, прыгожы, як бывалі старыя драўляныя школы на нашых вёсках. Пэўна, школа гэта? Пустая?..

— Гэта дом солтыса Паўлоўскага, які хацеў аддаць сваё жыццё за жыхароў суседняе вёскі. Было гэта ў час нямецкае акупацыі. Больш нам пра гэта мог бы расказаць дзядзька Валодзя Ахрымюк, але не ведаю, ці зможа, бо цяпер вельмі ж цяжка хворы. Аддалі яго са шпіталя дадому, каб хоць духова падмацаваўся, — кажа Алесь і затрымлівае машыну перад акуратным, дагледжаным дваром.

Заінтрыгаваны шумам аўтамашыны выглядае малады мужчына, Алесеў сябра з пачатковай школы. Вядзе нас у хату.

цька ягоны, хударлявы, з чорнымі без аднаго сівага валаса валасамі, спіць, цяжка дыхаючы. Не пасмелі мы перарываць яго сон, але прачнуўся, сеў на крайку ложка і памаленьку пачаў свой ціхі аповяд пра чалавека, якога добрая памяць незадоўга звядзецца ў народзе, тады, калі адыдуць у іншы свет людзі, якія бачылі і памятаюць. Гісторыю **Кастуся Паўлоўскага**, што „займаў Ахрымы і Капітаншчыну". І „немца" Юзафа, які не дапусціў бяды... І пра іншае...

— У той вечар мужчыны ад Каралюкоў ішлі, а там стаялі партызаны і пыталіся пра дарогу ў Капітаншчыну. Капітанцы сказалі. А чуў гэта такі, што стаяў над рабочымі ў лесе, чалавек з Нарвы, ён жа ехаў дадому, згледзеў усё, павярнуўся назад і папёр у Нараўку, паведаміць жандармерыю. Жандары запрэглі коней, прыехалі ў Ляўкова (служыў у іх адзін такі Г. з Гарадзіска падляшскага, то той тутака застаўся з конькмі), пайшлі пешшу і зрабілі засаду. Трох партызанаў ішлі забіць Паўлоўскага...

А ў Паўлоўскага жыў савецкі вайсковец, ранены ў плячо, што са шпіталя ў Беластоку цераз акно ўцёк. Ішоў быў, ішоў, з граблямі за спіною, быццам селянін, і дабіўся сюды, у Ахрымы. Паўлоўскі не пабаяўся, узяў яго да сябе, вылечыў яму плячо. Не пабаяўся Паўлоўскі...

Забілі тады аднаго партызана і павесілі яго ў канцы вёскі, для страху, а там яго потым і закапалі. Ранены другі быў, раніцай і яго злавілі і дабілі. Трэці ўцёк, схаваўся ў Капітаншчыне ў абарозе Касцюка. Калі немцы адышлі, перабег да Падляўкоўя, тут паспаў у аднаго і хацеў дастацца за рэчку, у вёску Беразіну. Зайшоў у Рыбакі, а жандары ехалі з Ялоўкі, там яго і злавілі, прывязалі да фуры, прыехалі да Галубоў да моста, кінулі два разы з таго моста ў рэчку... Сказаў ім усё — капітан то такі і такі (той, што яго павесілі), а той другі то быў радавы салдат... Закапалі яго ў лесе аднаго.

Да Паўлоўскага прыехалі немцы з Гайнаўкі і камісар з Белавежы. Юзаф з імі быў, добра польскую мову ведаў, ён і заступіўся за Паўлоўскім, кажа: „Ён жа нявінны, што на яго тэрыторыі трапіліся тры партызаны". Але Паўлоўскі кажа: „Будзеце расстрэльваць капітанцаў, расстраляйце і мяне з імі разам"! І не забілі ні Паўлоўскага, ні мужчын з Капітаншчыны. Пазабіралі ім толькі лепшых коней, паршукоў, выселілі ў Ляўкова, а вёску спалілі за тое, што партызанам спрыяла.

Рускаму таму, што ў яго хаваўся, Шуру, Паўлоўскі зрабіў нямецкія дакументы. Потым Шура жыў у Нараўцы, крыху на гаспадарцы рабіў, у Гушчэвіне меў кавалак зямлі пад лесам, з партызанамі знаўся, дасылаў ім дзе-што — ружжо, патроны, ладзіў ім тое-сёе, бо майстраваты быў чалавек. Потым яго забралі немцы, што жылі ў Свінароях, хацелі расстраляць, але Паўлоўскі не дапусціў, і Юзаф памог. Данеслі на Шуру. Прыслалі, каб Шура явіўся ў жандармерыю, але той паспеў уцячы, схавацца. Потым пайшоў у савецкую партызанку, за Бярначчынаю, цераз чыгуначную лінію. Паўлоўскі даў яму вінтоўку, але была без замка. Замок даў Саша Бачынскі. У партызанцы ранілі яго ў руку. Як немцаў пагналі, то наш Саша тут памагаў вузкакалейку разбіраць. Прыязджаў да нас пасля вайны. У Гродне з полькай ажаніўся, што яе бацькі потым выехалі ў Польшчу, за Варшаву. Ехаў наведаць цесцяў з жонкай, заехаў і да нас.

А Паўлоўскі памёр так: меў шлу-крайзегу, зляцеў з яе пас, адарваў яму нагу. Лекар хутка не прыехаў, уся кроў сцякла, і памёр Косця. Яшчэ вайна была...

— Так, будзе гэта 45 ці 46 год таму, у першы год, як я сюды прыйшла, — успамінае спадарыня Ахрымюкова. — Што ты зробіш, мусіць Бог дасць такога чалавека ў вёсцы, які паможа людзям, не дапусціць бяды. Тады, каб не Кастусь, пабілі б усіх мужчын у Капітаншчыне...

— А што з хатай... Дом Паўлоўскіх стаіць цяпер пусты. Паўлоўская прадала яго на школу, але пасля тую школу зліквідавалі. У палове хаты жыла настаўніца, потым атрымала сваю кватэру і пакінула школьны будынак. Купілі зноў гэты дом Паўлоўскага ўнучкі. Але рамонту не зрабілі, і не жывуць тут. Стаіць хата Паўлоўскіх адзінокая, пустая...

**МІРА ЛУКША**

З НАРОДНАЙ АБРАДНАСЦІ

## СВЯТА КАМАЕДЗІЦЫ

Камаедзіца — гэта адно са старажытных беларускіх святаў, якое сягае ў сівую мінуўшчыну. Яно бывае заўсёды напярэдадні Благавешчання, і прысвечана... мядзведзю. Пачатак свой гэтае свята вядзе з дахрысціянскіх часоў і сведчыць аб тым, што ў такой мясцовасці пакланяліся мядзведзю, лічылі яго сваім татэмам. Татэм — гэта жывёла, расліна або прадмет нежывой прыроды, якія, па ўяўленнях людзей, з'яўляліся роданачальнікамі плямёнаў. Для родавых груп татэмы з'яўляліся аб'ектамі пакланення, рэлігійнага ўшанавання. Татэм нельга было забіваць, есці. А паколькі мядзведзь — драпежная жывёла, то, каб зрабіць яго больш спагадлівым, людзі віталі мядзведзя і ладзілі яму свята. У гэты дзень мядзведзю рыхтавалі асобую ежу: на першую страву гатавалі сушаны рэпнік у знак таго, што ён ужывае пераважна раслінную ежу, травы. На другую страву падавалі кісель, таму што мядзведзь любіць авёс. Трэцяя страва складалася з гарохавых камоў, таму і сам дзень атрымаў назву: „Камаедзіца". Пасля абеду ўсе — старыя і малыя — клаліся на палаці, але не спаць, а памінутна самым павольным спосабам пераварочваліся з боку на бок, стараючыся імітаваць звычкі мядзведзя. Цырымонія гэта працягвалася каля дзвюх гадзін, і ўсё гэта рабілася дзеля таго, каб мядзведзь лёгка ўстаў са сваёй зімовай бярлогі. Пасля абеду сяляне ўжо не займаліся сваімі дзённымі работамі — святкавалі. Вядома, што, па перакананню сялян, мядзведзь на Благавешчанне абуджаецца ад спячкі, устае са сваёй бярлогі. Вось і сустракалі яго добразычліва.

## БЛАГАВЕШЧАННЕ

Беларускі народ аказвае глыбокую пашану Прасвятой Дзеве Марыі. Святам Успення і Нараджэння Багародзіцы прысвоена назва „святак" (15 жніўня і 8 верасня). Гэтая назва выразна ўказвае на жаданне вылучыць тыя святы, выразіць важнасць свята Багародзіцы. Значэнне Благавешчання ўзмацняецца яшчэ і тым, што гэта свята супадае з пачаткам вясны. Адной з самых верных прыкмет яе набліжэння лічыцца прылёт бусла, які заўсёды бывае на Благавешчанне. „Бусел прыляцеў — вясна будзе", — гавораць людзі, заўважыўшы першае з'яўленне гэтай птушкі.

Бусел — любімая птушка беларусаў. На чыім двары ён пасяліцца, таму будзе поўны дастатак. Многія людзі зацягваюць на стрэхі сваіх будынкаў старыя бароны, каб яны паслужылі асновай для гнязда бусла. Разбураць гняздо бусла — вялікі грэх. Акрамя таго ў бусла ў адной назе знаходзіцца агонь, у другой — вада, так што ён у адплату за разбурэнне гнязда можа зрабіць пажар. Забіваць бусла — таксама грэх. Гэта тое ж, як і забіваць чалавека, бо бусел сам з чалавека. Лепш за ўсё ўбачыць бусла першы раз лятучым: тады цэлы год „будзеш лёгкі на ногі". Здароўе для селяніна ў летні час, безумоўна, неабходна, таму ён стараецца пазбегнуць адных з'яў для прадухілення шкоды здароўю, а на другія натыкаецца, каб засцераглі ад хваробы. Ён пазбягае ўбачыць вясной раней асобу, чым бусла. Пачуўшы ўпершыню гром, ён качаецца па зямлі, каб „жывот улетку не балеў", ці падымае што-небудзь цяжкое, каб сярэдзіны не ламала. Гаспадыні раніцай да прабуджэння саміх гаспадароў стараюцца перавязаць саху, каб куры несліся. На Благавешчанне яны таксама не выносяць смецця з хаты, а ставяць яго ў пасудзіне пад лавай на покуцю, каб у летні час куры не гублялі яек па чужых дварах.

Благавешчанне прымушае гаспадынь падумаць пра агароды, тым болей, што пара каля гэтага свята лічыцца найбольш прыгоднай для пасеву расады. Для расады звычайна адводзіцца ў агародзе больш зацішнае месца, каб яе можна было накрыць — засцерагчы ад курэй і маразоў. Агароджа пры гэтым папраўляецца, але колікаў нельга ўбіваць у зямлю. Зямля, па ўяўленню селяніна, вясной „паросная", і біць па ёй у гэтую пару наогул грэх.

Другі агародны звычай Благавешчання гэта першы выган жывёлы ў поле. Але якую б патрэбу не меў селянін, не зрабіўшы першага выгану жывёлы ў поле да 13 красавіка, ён ніколі не адважыцца зрабіць гэта ў перыяд з 13 красавіка па 25 красавіка. Гэтая пара называецца „міжблагавешчын", яна супадае са святам Благавешчання па новым і старым стылях. Выган жывёл ў гэтую пару наклікае на іх ваўкоў.

Пасля Благавешчання гаспадар надзявае чыстую бялізну, кладзе ў торбу акраец хлеба, соль, яйкі і сыр, ідзе ў поле араць. Там ён праводзіць тры баразны, памаліўшыся Богу і есць абед. Хлебам дзеліцца з валом, а яйка закопвае ў зямлю, каб яна была ласкавай і добра зарадзіла збожжа.

**АЛЬЖБЕТА ТАМЧУК**

## МУЗЕЙНЫ ФОНД

Грамадскі камітэт пабудовы Музея помнікаў беларускай культуры праводзіць збор грошай на пабудову музея. Ахвяраванні трэба дасылаць на адрас: Bank Spółdzielczy w Hajnówce, nr konta 905217-1922-2710, а ў замежнай валюце: Narodowy Bank Polski, I Oddział w Białymstoku, nr rachunku walutowego: 5021-24325-152-6787. Жыхары Беларусі могуць уплачваць ахвяраванні на рахунак 141713 у Рэспубліканскім жылсацбанку горада Менска.

**Спіс чарговых ахвяравальнікаў:**

4283. Андрэй Валчак (Ляска) — 100.000 зл.
4284. Гражына і Славамір Бароўскія (Беласток) — 150.000 зл.
4285. Хведар Галёнка (Варшава) — 100.000 зл.
4286. Міхал Голуб Гайнаўка) — 100.000 зл.
4287. Нэля Шчука (Гайнаўка) — 60.000 зл.
4288. Рыгор і Вера Шэйпакі (Аўстралія) — 50.000 зл.
4289. Аляксандр Іванюк (Гайнаўка) — 50.000 зл.
4290. Ніна і Аляксандр Баршчэўскія (Варшава) — 1.000.000 зл.
4291. Аляксандр Станько (Ласінка) — 100.000 зл.
4292. Уладзімір Суліма (Гайнаўка) — 60.000 зл.

**Дзякуем.**
**Наш адрас:** Społeczny Komitet Budowy Muzeum Zabytków Kultury Białoruskiej w Hajnówce, ul. 3 Maja 42, tel. 30-16.

## ВЕР-НЕ-ВЕР

Дарагі Астроне!

Ужо некалькі разоў я звярталася да цябе са сваімі снамі, і ты адгадаў усё, як мела быць. І цяпер таксама хачу цябе прасіць, каб ты адгадаў мой сон. А вось ён.

Сніцца мне, што я вечарам уваходжу на нейкі панадворак з выхавацелькай сваёй дачушкі, а за намі бяжыць малы і рыжы сабачка. Я не хацела ўпусціць гэтага сабачку і думала, што мне ўдасца хутка зачыніць жалезную браму, але ён паспеў убегчы за намі. Тады гэтая выхавацелька пытаецца: „Дзе ў гэтым доме дзверы?" Я ёй адказваю: „Тут", — і мы з ёю ўваходзім. Як увайшлі, бачу адкрытую труну з жывымі кветкамі, а на іх дзіцячая ручка, быццам зробленая з гіпсу. У нагах тае труны сядзіць мая маці (яна ўжо памерла), яна плача і гаворыць: „Ох, Тамарачка, Магдаленачка!" Я стала на калені і, злажыўшы рукі, закрычала: „О, Божа!" Пасля падумала: „Чаму тыя бабы ў чорным моляцца над гэтай лялькай?" Навокал было шмат запаленых свечак.

**Тамара**

Тамара! Сон, можа, выглядае страшна, але ён някепскі. Мяркую, што ты ў сярэднім узросце, калі маеш дзіця ў прадшколлі, дык для цябе тая труна можа абазначаць нейкі прыбытак, тым больш, што былі там жывыя кветкі. Маці і бабы ў чорным не маюць тут вялікага значэння, але вось свечкі, якія гараць, — гэта добра. Калі б пагаслі, абазначала б гэта страту.

**АСТРОН**

## ДВУХЛІТАРНАЯ КРЫЖАВАНКА

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | | 2 | | 3 | | 4 |
| | | 5 | 6 | | | |
| 7 | 8 | | | | 9 | |
| | 10 | | | | | |
| 11 | | | | | 12 | 13 |
| | | 14 | | 15 | | |
| 16 | | | | 17 | | |

**Гарызантальна:** 1. чалавек з фізічным недахопам, 3. літаратурны жанр, 5. шырокаполы капялюш, 7. прыродны вадаём, 9. манаршае крэсла, 10. дыпламатычны дакумент, 11. пакаранне, 12. народнасць, якая пражывае на Таймыры, 14. напр., скульптар, 16. ягада малін, 17. апраўдвае няроўнасць рас.

**Вертыкальна:** 1. бакоўка ў вясковай хаце, 2. 60 штук, 3. сталіца Перу, 4. штучнае валакно, 6. даследчык прыроды, 8. закрытая прастора, 9. прэзідэнт ЗША (1945—53), 11. сібірская рака, месца сталінскіх ссылак, 13. бессаромнасць, 14. хлусня, 15. сталіца Ганы.

**(ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на віраванку з 7 н-ра:** „Песняры", пыласос, кароста, Ларнака, Машэраў, кашалот, Туронак, Арынока, Карэрас, баранка, парабак, сарафан.

Кніжныя ўзнагароды атрымоўваюць **Лукаш Пацэвіч і Аляксандр Дабчынскі** з Беластока.

**МІНІ-ДАВЕДНІК**

**Энцы** — народнасць, якая жыве на поўначы Сібіры.






*З МАНАСТЫРСКАЙ КУХНІ*

### САЛАТА З БУЛЬБЫ, ЯБЛЫКАЎ І АРЭХАЎ

Прадукты:
*5—6 бульбін (або 20 дэкаў дробнай фасолі),*
*1 вялікі яблык,*
*10 дэкаў грэцкіх арэхаў.*

**Соус I:**
*5—8 лыжак алею,*
*2 лыжкі фруктовага воцату,*
*1/2 лыжачкі солі,*
*1/2 лыжачкі перцу.*

**Соус II:**
*2 працертыя праз сіта вараныя жаўткі,*
*1/2 шклянкі смятаны,*
*1 лыжка фруктовага воцату,*
*соль і цукар (крыху).*

Звараную ў мундзірах і абабраную бульбу нарэзаць кубікамі. Дадаць абабраны і сцерты на бурачанай тарцы яблык і раздробненыя арэхі. Заліць адным з двух соусаў, падрыхтаваных з пералічаных вышэй прадуктаў.

**ГАСПАДЫНЯ**


Ніва

**"Niwa"**
ul. Suraska 1, 15-950 Białystok,
skr. poczt. 149, tel. 210-33.

Druk: "ORTHDRUK", Białystok,
ul. Składowa 9.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Мірановіч (галоўны рэдактар), Ян Мордань, Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:**

Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".

Prenumerata.
1. Termin wpłat na prenumeratę na III kwartał 1994 r. upływa 20 maja 1994 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały "Ruch" na terenie całego kraju.
2. Cena prenumeraty na III kwartał wynosi 52 000 zł.
3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Warszawa, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa.
Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.
4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 9000 zł., a kwartalnie - 117000 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika "Niwa", Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK SA, I Oddział Białystok, 370406-207917-132.

*ГЕНАДЗЬ ЮРЖЫЦ*

## ГОРШ ЦІ ЛЕПШ?

— Ало! Гэта бальніца?
— Бальніца.
— Скажыце, калі ласка, да вас паступаў хворы Цярэшчанка?
— Паступаў.
— А як яму зараз — горш ці лепш?
— Лепш.
— Дык навошта вы яго трымаеце?
— А мы не трымаем, можаце і забраць.
— Дык ён ужо зусім здаровы?!
— Не. Ён толькі што памёр.

## Парады лекара

1. У першай палове месяца вельмі шкодна пераядаць, бо ў другой палове ў вас не хопіць грошай і на хлеб.

2. Калі ў вас заробак вышэй за мінімальны ў тры разы, раім аднадзённае галаданне ў тыдзень, а калі ў два разы — трохдзённае. Ну, а калі мінімальны — садзіцеся на 30-дзённае і адначасова шукайце другую работу.

3. Калі вы прыйшлі да стаматолага і вельмі баіцеся, прапануйце доктару сесці ў крэсла, адкрыць рот, а самі ўключыце бормашыну. Пераканаецеся, што доктар такі ж баязлівец, як і вы.

**Я. ЗІНІНА**

## СЕНТЭНЦЫІ

Час — гэта караед: точыць вечнасць.

* * *

Чорт вяроўку ўе з салодкіх страў.

* * *

Няшчасце, як язык хамелеона, ловіць ахвяру знянацку.

* * *

Хлусіць язык, вочы — ніколі.

* * *

Богу мілы розум жывы.

**БАРЫС РУСКО**



*— Вашы вершы такія сумныя, што я ледзь не засну́ў.*
*— Дык надрукуйце іх як калыханку.*

**Малюнак В. Дудкі**




На чыгуначным вакзале ў Бельску-Падляшскім




*— Товарищи поляки, мы с этого города никуда не уезжали.*

**Фота М. Ваўранюка**

# ЗДАНІ І ПАЧВАРЫ БЕЛАРУСІ

*(працяг; пачатак у н-ры 40 за мінулы год)*

## ПОМНІКАВЫЯ ПАЧВАРЫ

### Юнак з гранатай

З пяцідзесятых гадоў непадалёк ад Міністэрства абароны ў Менску стаіць, бадай што, адзіны ў свеце помнік дзіцёнку-тэрарысту — Юнак з гранатай. Гэтая скульптура, усталяваная ў гонар піянера-героя, які адной гранатай падарваў не толькі сябе, але і з тузін паганых гітлераўцаў. Сродкі на помнік сабралі менскія піянеры і школьнікі, здаючы парожнія пляшкі. Магчыма, менавіта з гэтае прычыны сярод піянераў і школьнікаў паўстала добрая традыцыя — вадзіць на лаўкі да помніка непаўналетніх і паўналетніх сябровак, каб выпіць з імі таннага віна і задаволіць іншыя патрэбы. Але гэтая ідылічная завядзёнка аднойчы перакулілася трагедыяй...

Шасцікласнік Ч-яс, які вызначаўся ў школе не толькі кепскімі адзнакамі і незадавальняючымі паводзінамі, але і паталагічнай юрлівасцю, разам з маладой настаўніцай этыкі сямейных адносінаў і пляшкай таннага віна прыйшоў на ўлюбёную пляцоўку — пад помнік Юнаку з гранатай. Дапытлівы маладзён, выпіўшы віно, знайшоў ужытак парожняй пляшцы — ён, як юны натураліст, распачаў вымяраць ёю глыбіню похвы настаўніцы этыкі сямейных адносінаў. Але гэты занятак не прынёс плёну — пляшка схавалася дарэшты. Гэты анатамічны доследу быў настолькі цікавы, займальны і нетрывіяльны, што не пакінуў абыякавым нават скульптуру Юнака з гранатай. Каменны герой злез з пастамента і прапанаваў змяніць пра-ладу для вымярэння — працягнуў Ч-ясу сваю гранату з вельмі доўгай дзяржальняй. Школьнік і настаўніца этыкі сямейных адносінаў моцна пералякаліся, але запярэчыць не здолелі. Ч-яс, які сістэматычна прагульваў заняткі па пачатковай вайсковай падрыхтоўцы, не ведаў, як правільна карыстацца зброяй, і таму у самы адказны момант прылада забойства выбухнула.

На выбух прыбегла ахова Міністэрства абароны — жаўнеры ўбачылі жудасную карціну: два знявечаныя да непазнавальнасці трупы, а на пастаменце ў звыклай паставе стаяў запэцканы крывёю, шматкамі мяса і кавалкамі мозгу каменны Юнак, толькі замест гранаты ён узносіў над галавою парожнюю пляшку з-пад таннага віна...

Здарэнне гэтае жахлівае, але павучальнае, таму што яшчэ раз пацвярджае слушнасць старых ісцінаў, па-першае: дзяцей нельга ўцягваць у вайсковыя дзеянні, а па-другое — ім нельга даваць не толькі зброю і запалкі але і спіртныя напоі, па-трэцяе — адказы на ўсе пытанні па анатоміі, фізіялогіі і этыцы сямейных адносінаў яны мусяць знаходзіць толькі ў межах школьнай праграмы...

*(працяг будзе)*

**Падрыхтавалі**
**ФРАНЦІШАК ХЛУС**
**і МАРЦІН ЮР**

## СМЕХ У САНАТОРЫІ

Дзед вучыць унука жыццёвай мудрасці.
— Калі хочаш дабіцца ў жыцці поспехаў, будзь паслядоўным і асцярожным.
— Што гэта значыць — быць паслядоўным?
— Гэта значыць, што трэба стрымліваць дадзенае абяцанне.
— А асцярожным?
— Нікому нічога нельга абяцаць.

* * *

Прэзідэнт адной дзяржавы захварэў і паклалі яго ў бальніцу. Рана лекар прынёс яму тэлеграму: „Парламент жадае вам хуткага вяртання да здароўя 247 галасамі за, 139 — супраць, 53 — устрымаліся”.

* * *

— Прашу распрануцца, — гаворыць жывапісец да кандыдаткі на натуршчыцу, — мушу паглядзець, якая ў вас фігура.
— Спярша пакажыце мне свае карціны, мушу паглядзець ці варта распранацца.

* * *

— Пан прафесар, гляньце на свае чаравікі, — смяецца асістэнтка. — Вы абулі адзін чорны, а другі карычневы.
— Ну, праўда! А ведаеце, я дома маю яшчэ адну такую самую пару!

* * *

— Чаму певень цэлае жыццё радасна спявае?
— Бо мае многа жонак і ніводнай цешчы.

* * *

— Чаму падсудны вырабляў фальшывыя грошы?
— Бо замала меў сапраўдных.

* * *

— Куды збіраешся? — пытае селянін селяніна.
— У горад; застрахаваць дом і гаспадарку ад пажару і граду.
— Чаму ад пажару — разумею, але як зробіш, каб упаў град?

* * *

— Пакажыце свой білет! — гаворыць кандуктар пасажыру.
— Як вы не саромеецеся жадаць ад мяне гэтага?!
— Чаму ж мая саромецца, гэта нармальна.
— Нармальна?! Цягнік гэты мае чатыры гадзіны спазнення!
— Ну і што з гэтага? Паказвайце свой білет!
— Не магу паказаць білета: мяне тут няма. Паводле раскладу, я ўжо гадзіну сяджу дома і вячэраю.

* * *

— Пагляньце, як гэтыя старэйшыя людзі падобныя да сябе!
— Можа гэта блізняты?
— Ну, што вы?! У такіх гадах!..

* * *

— Няма ў свеце істоты хітрэйшай і зласнейшай ад жонкі.
— Ёсць! Гэта яе маці!

Запісаў
**АНДРЭЙ ГАЎРЫЛЮК**

## КРЫЗІС НАВУКІ

Ў недавучаных студэнтаў
Водзяцца даляры,
А ў затузаных дацэнтаў —
Толькі акуляры.

**АНАТОЛЬ ЦЫРКУНОЎ**




**Дарагое Сэрцайка!**

Мне цяпер 18 гадоў і жыццё не мае для мяне сэнсу. А ўсё пачалося з таго, як мая мама выйшла другі раз замуж. Мой айчым меў старэйшага за мяне на 2 гады сына.

Хлопец быў вельмі прыгожы, але характар меў паскудны: у адносінах да мяне ён быў вельмі вульгарны, заўсёды мяне зачапляў, рабіў з мяне пры бацьках ідыётку. Мая мама аднак яго палюбіла, адносілася да яго, як да роднага сына. Я адчувала сябе непатрэбнай у сям'і. Мяне забылі, лічыўся толькі ён. Я амаль ненавідзела яго.

Самае горшае пачалося пазней. У гэтым годзе на Сільвестра бацькі пайшлі да сяброў. Мяне вельмі здзівіла, што „брат” астаўся ў хаце, таму што ў яго было многа запрашэнняў.

Я глядзела па тэлевізару фільм, калі пачула, што хтосьці ўвайшоў у пакой і сеў каля мяне. Гэта быў ён. Абняў мяне і пацалаваў у шыю. Потым прытуліўся да мяне і мацней пацалаваў у вусны. Я была так здзіўлена, што не магла паварушыцца і нічога сказаць. Ён цалаваў мяне штораз мацней. Я апрытомнела і пачала вырывацца. Аднак ён мяне прытрымаў сілай і пачаў здымаць з мяне вопратку, а пасля распрануўся сам. Я хацела крычаць, але ён закрыў мне рукою рот. Ён пачаў мяне гваліць. Я адчула вялікі боль і пачала плакаць. Тады ён перастаў, прытуліў мяне і сказаў, што вельмі мяне кахае. Я яго адапхнула і ўдарыла ў твар. Мы сядзелі і моўчкі глядзелі адно на другое. У яго вачах я ўбачыла смутак. Тады ён паўтарыў, што кахае мяне ад самага пачатку, калі толькі ўбачыў мяне першы раз. Ён не мог пагадзіцца, што стану яго сястрой і таму так вульгарна да мяне адносіўся. Я зразумела, што адчуваю тое самае, што і ён. Мы пачалі кахацца яшчэ раз. Цяпер ён быў далікатны і чулы.

Гэты нонсенс працягваецца ўжо 3 месяцы. Мы кахаемся патаемна, але ведаем, што ніколі не будзем разам. Сэрцайка, парай, што нам рабіць, скажы, што з намі будзе

**Агата**

Даражэнькая Агата! А чаму ты лічыш, што вы не можаце быць разам? Вы ж не родныя брат і сястра — у вас іншыя бацькі і маці. Так кахацца думаю не грэх і не шкодна. Адмоўнае ўздзеянне на патомства маюць толькі такія сужонствы, дзе муж і жонка блізкія па крыві. Аднак жа і такія пары часамі рызыкуюць. У арыстакратычных сем'ях часта жаніліся з блізкімі сваячкамі (каб захаваць „блакітную” кроў), а ў выніку гэтага няраз радзіліся недаразвітыя дзеці. Прырода бязлітасная!

Што датычыць вашых адносін, дык, здаецца, твая маці выйшла замуж нядаўна, ты нават слова „брат” пішаш у двукоссі. Дык які ж ён табе родзіч?! Іншая справа, калі б вы з маленства гадаваліся разам. Тады, вядома, вы маглі б адчуваць сябе, як брат і сястра, і сталовішча сапраўды магло б быць няёмкае.

Думаю, што праз нейкі момант бацькі ўсё гэта заўважаць (неабавязкова лавіць вас у недвухсэнсавы момант, дастаткова, што ўбачаць вашы позіркі, заўважаць, што любіце бываць удваіх у хаце і ў кампаніі). Думаю, што яны толькі ўцешацца з таго, што сталася. А мо проста адразу скажы маці. Маці павінна ўсё зразумець.

**СЭРЦАЙКА**